НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 6 (795) 13 лютага 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Беларускае каханне

З Днём святога Валянціна!



**Мы далі абвестку на сайце НН: шукаем пару, якая хоча сфатаграфавацца для першай паласы газеты да Дня Святога Валянціна. Вам застануцца фоты на памяць аўтарства Сяргея Гудзіліна. А Ваш пацалунак застанецца на добрую памяць чытачам «Нашай Нівы» пра Святога Валянціна—2013. У той жа вечар патэлефанавалі чатыры пары! На першую старонку выбралі тых, што найдаўжэй разам. Астатнія яшчэ не так доўга. Таму іх пабачыце пакуль толькі на старонцы 6.**

**Праўда на свеце**

## Не будзе дабра ў Беларусі, пакуль хакеіст зарабляе ў 30 разоў больш, чым педагог ці хлебароб!

Беражкоў: Славенскія хакеісты атрымліваюць максімум 5–6 тысяч даляраў, беларускія — 50–60 тысяч за месяц. **Старонка 8.**

**Выбар**

## Годны ўчынак Папы

Апошні раз падобнае было 600 гадоў таму.
**Старонка 3.**



**Аўто**

## Расійскі аўтапрам заваёўвае Беларусь

Самая папулярная марка — зноў «Лада».
**Старонка 5.**



**Гучная справа**

## Удар, а потым страшны крык

Дапамагаў дзецям, а самога судзяць за смерць школьніка.
**Старонка 10.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Выстава з кнігамі. З сэнсам і без

**На XX кніжным кірмашы ў Мінску забаранілі прэзентацыю рамана Някляева.**

«Хацелі даць радыёабвестку, што Уладзімір Арлоў падпісвае кнігі. Сказалі: Арлоў? Ды вы што», — з горыччу расказвае супрацоўніца аднаго незалежнага выдавецтва. Гаворка адбываецца ў суботу, перадапошні дзень працы XX Міжнароднага кніжнага кірмашу ў выстаўным комплексе на вуліцы Янкі Купалы ў Мінску.

Паводле планаў, шкляны прастакутны паралелепіпед даўно павінны былі знесці, а на яго месцы *інвестар* (вымаўляйце гэтае слова з той сама інтанацыяй, з якой у савецкі час вымаўлялі: «правяраючыя з ЦК») з *Амана* (ісламскі султанат ібадыцкага толку) меў пабудаваць *чарговы гатэль* (і хто ў іх будзе жыць?). Але, на шчасце, планы ў нашай краіне больш пішуцца, чым выконваюцца, а таму чытаючая публіка магла прыйсці на кніжную выставу ў цэнтры сталіцы, на вуліцы імя класіка нацыянальнай пісьменнасці, а не дзесьці ў Шчомысліцы за МКАД, дзе ёсць план збудаваць новы выстаўны комплекс.

Кніга Арлова «Вялікае Княства Літоўскае» прадавалася як мінімум на чатырох стэндах, а на стэндзе Славаччыны яна ўвогуле займае тры чвэрці прасторы. Гэта шыкоўны ілюстраваны том. Славакі вынеслі яго на выставу, бо аддрукаваны ён на адным з найлепшых у Еўропе паліграфічных прадпрыемстваў, у славацкай друкарні Neografia, накладам 5000 асобнікаў. Такой паліграфіі ў Беларусі проста няма. 400 старонак, 2000 ілюстрацый — трымаеш том і адчуваеш гонар за гісторыю сваёй краіны.

Быць бы кнізе ўганараванай у якасці выдання года, але...

Але імя аўтара ёсць у чорных спісах. Якіх няма (гл. стэнаграму нядаўняй мега-прэс-канферэнцыі).

### Дзяржыморды

Самай гучнай падзеяй выставы стала забарона прэзентацыі рамана Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай. З сіропам і без». Гэта раман, а не палітычны памфлет, і тым не менш: забаранілі. Імя аўтара — таксама ў чорным спісе.

Прычым усё гэта адбылося на вачах у замежнікаў. Імпрэза была запланаваная ў першы дзень кірмашу на стэндзе пасольства Польшчы. Менавіта на ім, бо кніга ў ліку сарака іншых была намінавана на беларуска-польскую прэмію Гедройца. Але, як толькі ў руках Някляева апынуўся мікрафон, ля стэнда з'явіўся дырэктар выставы Дзмітрый Макараў, адклікаў убок вядучага імпрэзы Андрэя Хадановіча і даў «пяць хвілінаў на роздумы». Мікрафон адключылі, Някляеў працягваў без яго. Макараў яшчэ раз пагаварыў з Хадановічам, і імпрэзу спынілі. Не адбылася і запланаваная аўтограф-сесія Някляева.

Працяг на старонцы 11.

**Арцём Грыбкоў**

З маўчанак і тупату мала карысці

Усё помняць муры і маўклівыя вежы.
Агонь іх не знішчыў, вада не стачыла.
Мяняліся ўлады, знішчаліся межы,
Хваробы з вайною тут побач хадзілі.

Ды часта з касою, зусім не ў поле,
Адзінага сына пускала жанчына.
Дзе чыстае неба — там лепшая доля.
Праз кроў здабываліся праўда і воля,
Калі заклікала Айчына.

Народ мой гаротны, бядою кляймёны,
Уздобрыў палеткі сваёю крывёю.
У сэрцы навечна герояў імёны,
Хоць косьці даўно пад сырою зямлёю.

Ды часта блішчалі слязінкі расою,
Хавала матуля адзінага сына.
За сонца, што свеціць над галавою,
Ён быў для радзімы магутнай сцяною,
Калі заклікала Айчына.

Прачніся ж цяпер, мой народ, як калісьці.
Ці чуеш ты, стогне як маці-зямліца?
З маўчанак і тупату мала карысці.
Свабоду каб мець, трэба з ворагам біцца.

Разгорнем сцягі, засланяючы неба.
Трасіся у ложку, як ты не мужчына.
Каб дзецям тваім быў і хлеб і да хлеба,
Яна мне сказала, што гэта ўсё трэба.
Ты чуеш, нас кліча Айчына.

# Трагічна загінуў былы палітвязень Арцём Грыбкоў

Арцёма не стала яшчэ 13 снежня. Гэта было трагічнае здарэнне. Стакроць трагічнае: ён усяго толькі за месяц перад тым ажаніўся, і ягоная Святлана чакае дзіця. Яна чакала яго з турмы, хадзіла ў суды, вазіла перадачы. А страціла тады, калі, здаецца, самае страшнае засталося ззаду. І мама, і ўдава настолькі цяжка перажываюць здарэнне, што дагэтуль ні з кім не гавораць.

Арцёму Грыбкову было 23 гады, ён з Карэліч. Вучыўся ў мінскім каледжы лёгкай прамысловасці. Калі яго затрымалі на Плошчы, то думалася, што ён трапіў туды выпадкова. Ні ў якіх рухах, ні ў партыях ён не быў. Але чалавек туды прыйшоў свядома. Дастаткова прачытаць ягоныя беларускамоўныя вершы.

Быў асуджаны на 4 гады зняволення, сядзеў на адной лаве падсудных з Міколам Статкевічам.

Пакаранне адбываў у бабруйскай калоніі. Каб выйсці на волю, напісаў прашэнне. «Там быў адзін радок: «Прошу помиловать в связі з чістосердечным раскаяніем», — тлумачыў Арцём пасля выхаду на свабоду. І дадаваў: — Я пайшоў бы зноў на Плошчу».

Пахавалі Арцёма на радзіме ў Карэлічах.

**Кастусь Матушыч**



**Толькі ў лістападзе Арцём пабраўся шлюбам.**

# «Неба засвяцілася зялёным. Святло ў хаце пагасла»

У «Нашу Ніву» звярнуўся жыхар вёскі Пружынішчы Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці і паведаміў пра незвычайную з'яву, якую назіраў у аўторак зранку.

«12 лютага, каля 6.30, яшчэ ў цемры, я чысціў ад снегу дарожку. Раптам неба засвяцілася зялёным. Святло ў хаце пагасла, пагаслі і ліхтары на вуліцы. Праз пару секунд неба запалала чырвоным, потым ізноў зялёным. Усё доўжылася секунд восем, не даўжэй. Я на імгненне інстынктыўна спалохаўся. Было цёмна. Але праз момант загарэлася святло ў хаце, а трошкі пазней і ліхтары. Пэўна, гэта невялікае палярнае ззянне, бо каб метэор, то колер быў бы аднастайны, белы, ды і святло не адключалася б», — піша спадар Мікалай.

На жаль, імавернасць таго, што мясцовы жыхар назіраў НЛА, астэроід ці такое рэдкае ў Беларусі паўночнае ззянне, дастаткова малая. Хутчэй за ўсё, гэта быў эфект таго, што дрэва павалілася на высакавольтныя лініі электраперадач, кажуць у філіі «Акцябрскія электрычныя сеткі» РУП «Гомельэнерга».

Прычынай адключэнняў электрычнасці там называюць моцныя снегапады, якія прыйшлі на Гомельшчыну: снег націпаў на драты, валіў дрэвы. А падзенне дрэва на высакавольтныя ЛЭП можна ўбачыць кіламетраў за дзесяць, кажа супрацоўнік прадпрыемства. Таксама выявілася, што вёсцы Пружынішчы яшчэ вельмі пашэнціла — электрычнасць там з'явілася адразу пасля адключэння. У іншых населеных пунктах энергазабеспячэнне адсутнічала больш працяглы час.

Асноўная частка інцыдэнтаў здарылася ў нядзелю і панядзелак, але падача электраэнергіі была аднаўленая да раніцы аўторка. Пасля адбылася некалькі новых адключэнняў. Па стане на 15:00 12 лютага электрычнасць адсутнічала ў васьмі населеных пунктах і на трох фермах. Але ў «Гомельэнерга» запэўнілі, што «сітуацыя не стыхійная і ніяк не адаб'ецца на надоях: усе фермы абсталяваны электрагенератарамі».

**Кірыла Хілько**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

### Сцісла

**Расія зацікавілася беларускай мікраэлектронікай**

Беларусь наведаў намеснік старшыні ўрада Расіі Аркадзь Дварковіч. Ён паведаміў, што на сустрэчы з беларускім прэм'ерам быў падрабязна абмеркаваны цэлы шэраг важных сумесных праектаў. У якіх будуць удзельнічаць «Гродна Азот», «Гомсельмаш», «МАЗ», шэраг прадпрыемстваў мікраэлектронікі.

**Ланская не ўзяла песні Кіркорава на «Еўрабачанне»**

Спявачка палічыла яе «занадта мужчынскай» для сябе. Адной з магчымых прычын адмовы ад «паслуг» Кіркорава ў асяроддзі артысткі называюць і немалую цану яго прадзюсарскай дапамогі.

**Курманбека Бакіева асудзілі на 24 гады, яго брата Жаныша — пажыццёва**

Вайсковы суд Кыргызстана вынес прысуды былому прэзідэнту краіны Курманбеку Бакіеву і ягонаму брату Жаныш у. Іх абвінавачваюць у крывавых падзеях красавіка 2011. Курманбек разам з сям'ёй амаль тры гады ўжо жыве ў Беларусі.

**Тры драўляныя царквы стануць помнікамі**

Міністэрства культуры адрэагавала на ініцыятыву Таварыства аховы помнікаў. Гэта царква Святой Тройцы ў вёсцы Морын, Свята-Пакроўская царква ў вёсцы Мікалаеў (Іўеўскі раён) і царква Узвышэння Святога Крыжа ў Далятычах (Навагрудскі раён).

**ЗП**

**Рэкамендуем**

## Правакацыйны гурт з Акцябрскага

«Аны» граюць «калгасны рок».

## Першы беларускі раман пра німфаманію. Фенаменальны

Раман Алены Бравы «Менада і яе сатыры» — гэта люстэрка жыцця, у якім паталогіі сталі нормай. Піша Андрэй Дынько.

**Чытайце і глядзіце на nn.by.**

### Самае чытанае на nn.by за 6—12 лютага

1. Царскае сяло Дразды: хто ў ім жыве
2. Міністр спорту «наехаў» на Герасіменю за бел-чырвона-белы сцяг
3. Суд над кіроўцам «Паршэ Каен» — анлайн
4. Брутальнае затрыманне зладзеяў у мінскай краме — відэа
5. Загінуў былы палітвязень 23-гадовы Арцём Грыбкоў
6. Шэйман раскрыў шакуючыя факты пра карупцыю ў Кіраўніцтве справаў прэзідэнта
7. «Двое ў швэдрах расійскага клуба прапанавалі мне за 500 рублёў спець гімн Расеі»
8. У вучылішчы алімпійскага рэзерву ў Мінску памёр 15-гадовы баскетбаліст
9. 67 гадоў з часу забойстваў беларусаў Падляшша польскімі партызанамі
10. Сястра Варламава паказала кватэру мадэльера

# Папа зракаецца пасады: 85 гадоў, няма сілаў

Апошні раз нешта падобнае было **600 гадоў таму**.



Папа Бенедыкт XVI абвясціў пра свой сыход у адстаўку. Адпаведную заяву Папа зрабіў лацінай падчас сустрэчы з кардыналамі ў Ватыкане. Як паведамляецца, пантыфік пакіне сваю пасаду 28 лютага.

Звычайна Папы заставаліся на пасадзе да смерці, Папа Бенедыкт аддаў перавагу ранняму сыходу. Апошні раз Папа абвяшчаў аб сваёй добраахвотнай адстаўцы амаль 600 гадоў таму: у 1415 годзе ад сану адрокся Грыгорый XII.

Выбары новага Папы пройдуць пры зачыненых дзвярах у сакавіку. У выбарах бяруць удзел усе маладзейшыя кардыналы. За будучага Папу павінны прагаласаваць дзве траціны канклава плюс адзін кардынал. Калі новы пантыфік абраны, пра гэта апавяшчаюць белым дымам з коміна Сіксцінскай капэлы. Калі ніводзін з прэтэндэнтаў на Пасад не набярэ патрэбнага мінімуму галасоў, з коміна ідзе чорны дым. Гэты дым атрымліваецца ў выніку спальвання бюлетэняў галасавання, да якіх дадаюць фарбавальнік патрэбнага колеру.

Папа патлумачыў сваё рашэнне адмовіцца ад Пасада тым, што яму нeuставала сілаў для пасады. Пішуць, што Папа сказаў кардыналам, што «пасля доўгага роздуму ён зразумеў, што павінен пакінуць Пасад, бо ў яго больш няма сілы трымаць яго на плячах».

Бенедыкт XVI (Ёзэф Ратцынгер) заняў Святы Пасад увесну 2005. Яму 85 гадоў, на Пасадзе ён правёў амаль 8 гадоў. Сам ён немец, з Баварыі.

**Мікола Бугай**

# Папа і Беларусь

### Сустракаўся з Лукашэнкам, але не прыехаў у Беларусь

У красавіку 2009 Аляксандр Лукашэнка ў Ватыкане меў прыватную размову з Папам Бенедыктам XVI. Гэта быў першы выезд Лукашэнкі ў Еўропу пасля адмены санкцый. Тады Папа таксама прыняў падарунак ад Мікалая Лукашэнкі — буквар парасейскy. Тым не менш, канкардат паміж Беларуссю і Ватыканам так і не быў заключаны. Лукашэнка неаднакроць казаў пра магчымасць візіту Папы ў Беларусь. Але паездка праз пазіцыю Праваслаўнай Царквы не адбылася.

### Помнік у Лучаі

Першы ў свеце помнік Бенедыкту XVI адкрыты ў мястэчку Лучай Пастаўскага раёна. Паўстаў ён перад касцёлам дзякуючы намаганням ксяндза Мікалая Ліпскага. Касцёл у Беларусі пры Бенедыкту XVI працягваў беларусізавацца.

### Місія Гуджэроці

У верасні летась апостальскі нунцый Ватыкана Клаўдыё Гуджэроці наведаў у турмах беларускіх палітвязняў. У вязніцах ён перадаваў вітанні ад Папы. Палітвязні атрымалі вялізную маральную падтрымку, ведаючы, што пра іх моліцца кіраўнік Каталіцкага Касцёла. На Кубе Бенедыкт XVI заклікаў жыхароў вострава «шукаць сапраўдную свабоду».

### Твітар

Папа Бенедыкт не быў рэфарматарам, у адрозненне ад папярэдніка Яна Паўла II. Тым не менш, яму таксама даводзілася паспяваць за часам. Напрыклад, мець мікраблог у Твітары. Бенедыкт быў першым Папам, які наведаў тэлевізійную перадачу, каб адказаць на пытанні гледачоў.

### Наступнік

Не паспеў Папа абвесціць пра свой сыход, як букмекеры ўжо склалі спіс магчымых наступнікаў Бенедыкта. Называюцца імёны наступных кардыналаў: ганец Пітэр Тарксан, канадзец Марк Уэле, нігерыец Фрэнсіс Арынзе. Але зусім не факт, што нехта з іх стане наступным Папам.

**Зміцер Панкавец**

# Пётра Рудкоўскі: Папа Бенедыкт — мысляр, улада яго абцяжарвала

Пра сыход Папы са Святога Пасада мы гутарым з тэолагам **Пётрам Рудкоўскім**.

**Пётра Рудкоўскі:** Што ён разглядаў такую магчымасць, стала ясна, калі ён наведаў для малітвы магілу Папы Цэлестына V [сялянскі сын, XIII ст., абраны Папам, калі яму было 80 гадоў — **«НН»**] — аднаго з нешматлікіх Папаў, якія абдыкавалі [г.зн. адракліся пасады — **«НН»**]. Ёзэф Ратцынгер у значнай ступені навуковец, настаўнік, які служыў Касцёлу і чалавецтву сваёй інтэлектуальнай рэфлексіяй. Функцыя пантыфіка — кіраўнічая, функцыя кіраўніка супольнасці — цяжка яму давалася.

**«Наша Ніва»: Як Вы думаеце, ці паўплывалі на гэтае рашэнне тыя скандалы, якія адбываліся ў Касцёле за апошні час, ці можа быць нешта схаванае за гэтай адстаўкай?**

**ПР:** Выключана, што ён дзейнічаў пад уплывам ціску, шантажу. Тыя скандалы і медыйны розгалас вакол іх — як наконт ксяндзоўпедафілаў, так і фінансавыя справы, продаж папскіх дакументаў ягоным дварэцкім — маглі мець псіхалагічны ўплыў на Папу, выклікаць дыскамфорт. Па складзе характару Бенедыкт XVI цяжка пераносіў такое.

**«НН»: Ён не прагнуў улады…**

**ПР:** Так, ён добра рэалізаваўся ў якасці інтэлектуала, багаслова, а функцыя пантыфіка ў цяжкі перыяд...

**«НН»: Ян Павал II заставаўся на пасадзе да скону, і ягоная нямогласць выклікала спачуванне. Ён сабою нагадваў нам пра патрэбу шанавання, дапамогі старым, нямоглым, пра абмежаванні людскія. Папа Бенедыкт выбраў іншую дарогу. Як Вы думаеце, такі ягоны выбар паўплывае на наступнікаў? Яны будуць схільны не заставацца на пасадзе пажыццёва?**

**ПР:** Такая сугестыя [дапушчэнне — **«НН»**] мае немалое зерне рацыянальнасці. На працягу стагоддзяў не было традыцыі, каб Папы абдыкавалі. Сёлетні прэцэдэнт можа паўплываць на наступных пантыфікаў. Зрэшты, у такім падыходзе няма нічога звышнатуральнага. Біскупам Касцёл нават рэкамендуе сыходзіць на спакой у 75 гадоў.

Папу Бенедыкта ўвогуле характарызавалі такія якасці, як пакора і хрысціянскі рэалізм. Бенедыкт стаў Папам пасля вельмі папулярнага і медыйнага Яна Паўла II, і ён рэалістычна ацэньваў сваю сітуацыю. Гэта выявілася ў першай жа ягонай прамове. Ён стараўся зрабіць што мог у душпастырстве.

**«НН» Хто можа стаць новым Папам?**

**ПР:** Павялічваецца імавернасць, што ім можа стаць нееўрапеец. Можа быць, лацінаамерыканец ці нават біскуп з Афрыкі ці Азіі.

**«НН»: Папа Бенедыкт сустракаўся з кіраўніком Беларусі. У той жа час дагэтуль не падпісаны такі чаканы канкардат. Вы прадбачыце нейкія змены ў адносінах Ватыкана і Беларусі зараз?**

**ПР:** Думаецца, сутнасных зменаў не будзе. Ролю ў адносінах іграюць мясцовая касцёльная іерархія і апостальскі нунцый. Ад іх чэрпае сваю інфармацыю Ватыкан.

**«НН»: У памяці беларусаў ён застанецца як Папа, які сустракаўся з Аляксандрам Лукашэнкам і паціснуў руку Колю.**

**ПР:** Мы, хрысціяне, адрозніваем асобу чалавека і ягоныя ўчынкі. Асоба заслугоўвае павагі незалежна ад учынкаў. Папа Ян Павал II таксама ціснуў руку ў тым ліку Фідэлю — ён ціснуў руку асобе, а не дыктатару.

**Гутарыў МБ**

## Фотафакт



**Ідэолаг Вадзім Гігін (на пярэднім плане) узяў удзел у дыскусіі разам з журналістамі Малішэўскім і Быкоўскім. Гаварылі пра «інфармацыйную вайну». Зладзіў мерапрыемства «Ліберальны клуб».**

## Сцісла

### Галандцы зрабілі залатую манету з выявай Бяляцкага



І прэзентавалі яе паслу Беларусі. Таксама сябры арганізацыі «Амністыя» перадалі дыпламату 84 тысячы подпісаў за вызваленне палітвязня.

### Памёр былы кіраўнік «Газпрама» Рэм Вяхіраў

Яму было 78 гадоў. За часам кіравання Расіяй Ельцыным Вяхіраў меў немалы ўплыў на палітычныя рашэнні. Яго яшчэ называлі «Газавы кароль». Але Пуцін адхіліў Вяхірава ад прыняцця важных рашэнняў.

### Супраць Статкевіча ў турме зноў пачаліся правакацыі

8 лютага экс-кандыдат у прэзідэнты патэлефанаваў родным. Гаворка ішла аб тым, што зноў пачаліся правакацыі, спробы «падсадзіць» у камеру «сумнеўных» суседзяў. Былога супрацоўніка спецслужбаў, які вядомы вельмі жорсткім стаўленнем да сукамернікаў, здзекамі і збіццём іх.

### Лукашэнка з’ехаў у адпачынак

Пройдзе ён у Сочы. Тамсама Лукашэнка адпачываў у верасні, перад парламенцкімі выбарамі.

**ЗП**

# Шэйман — прафесар. Як аказалася, псеўдаакадэміі

Дзіўны факт выявіў блогер **d-zholik**.


Шейман Виктор Владимирович родился в 1958 г. в д.Солтанишки Вороновского р-на Гродненской обл. Окончил Благовещенское высшее танковое командное училище и Академию Министерства внутренних дел Республики Беларусь. В 1975-1992 гг. служил в Вооруженных Силах на должностях командного, политического, командно-штабного составов, в том числе в Республике Афганистан.

Генерал-полковник. Профессор Академии проблем безопасности, обороны и правопорядка Российской Федерации. Государственный советник юстиции 1-го класса.

В 1990-1994 гг. был депутатом Верховного Совета, секретарем Комиссии Верховного Совета по вопросам национальной безопасности, обороны и борьбы с преступностью.

В 1994-2000 гг. - государственный секретарь Совета Безопасности – помощник Президента по национальной безопасности, государственный секретарь Совета Безопасности – министр внутренних дел.

У дзень прызначэння Віктара Шэймана на пасаду кіраўніка справаў прэзідэнта на сайце інфармагенцтва БелТА з'явілася афіцыйная біяграфія прызначэнца, у якой генерал-палкоўніка называюць яшчэ і «прафесарам».

Блогер выявіў, што так званая Акадэмія праблем бяспекі, абароны і правапарадку Расійскай Федэрацыі (абрэвіятура — АБОП) — агульнарасійская грамадская арганізацыя, заснаваная ў Расіі 10 ліпеня 2000. Аказваецца, яе ліквідавалі яшчэ 10 снежня 2008 года рашэннем Вярхоўнага Суда РФ па заяве Генеральнага пракурора РФ.

З афіцыйнага паведамлення Генеральнай пракуратуры Расеі: «Праверкай, праведзенай Генеральнай пракуратурай РФ сумесна з ФСБ Расіі, ФНС Расіі, Мінюстам Расіі, Расадукнаглядам, Геральдычнай радай пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі, былі выяўлены шматлікія парушэнні заканадаўства ў дзейнасці названай грамадскай арганізацыі. Акадэмія, з'яўляючыся грамадскай арганізацыяй, незаконна пазіцыянавала сябе як дзяржаўная структура, надзеленая адпаведнымі паўнамоцтвамі. Пры ажыццяўленні сваёй дзейнасці незаконна выкарыстоўвала знакі і атрыбуты дзяржаўнай улады, у тым ліку штандар Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

Акадэмія паўсюдна выкарыстоўвала найменне Акадэмія праблем бяспекі, абароны і правапарадку і АБОП, выключаючы ўказанне на арганізацыйна-прававую форму, што стварала бачнасць дзяржаўнага статуса Акадэміі.

Паводле заключэння Геральдычнай Рады пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі, Акадэміяй насуперак заканадаўству ў галіне ўзнагароднай і геральдычнай палітыкі былі заснаваны ордэны, медалі, нагрудныя знакі, якія маюць падабенства з дзяржаўнымі. Узнагароды ўручаліся расійскім і замежным грамадзянам, часцяком прадстаўляюцца ім як дзяржаўныя. Узнагародамі Акадэміі і Нацыянальнага камітэта грамадскіх узнагарод, заснаванага Акадэміяй, з 2000 г. па цяперашні час было ўзнагароджана больш за 40 тысяч чалавек.

Акадэміяй незаконна прысвойваліся спецыяльныя званні, якія супадаюць з воінскімі званнямі ў Расійскай Федэрацыі. Арганізацыяй незаконна выкарыстоўваліся ўзоры форменнага абмундзіравання, аналагічныя вайсковай форме.

Супрацоўнікам Акадэміі выдаваліся службовыя пасведчанні, якія маюць падабенства з пасведчаннямі дзяржаўнага ўзору, якія выкарыстоўваліся імі ў асабістых мэтах, што стварала ўмовы для карупцыйных праяваў і дыскрэдытавала дзяржаўную ўладу. Меліся факты выкарыстання службовых пасведчанняў Акадэміі пры здзяйсненні злачынстваў, як правіла, ашуканскіх дзеянняў у асабліва буйных памерах.

Членам Акадэміі прысвойваліся спецыяльныя званні — сапраўдны член Акадэміі, член-карэспандэнт Акадэміі, а таксама ганаровыя званні «Заслужаны дзеяч навукі АБОП» і «Заслужаны юрыст АБОП» з уручэннем адпаведных нагрудных знакаў і пасведчанняў.

Дысертацыйнай радай і вышэйшым атэстацыйным камітэтам Акадэміі прысвойваліся вучоныя ступені і вучоныя званні (доктар навук, кандыдат навук, прафесар, дацэнт). Узоры дыпломаў і атэстатаў, якія выдаюцца Акадэміяй, мелі падабенства з дыпломамі і атэстаты дзяржаўнага ўзору, што не выключала іх выкарыстанне ў якасці такіх. У шэрагу выпадкаў гэта прывяло да незаконнага ўсталявання даплат за вучоныя ступені і вучоныя званні і, як следства, неправаменрага расходавання бюджэтных сродкаў».

На думку блогера, супрацоўнікі БелТА не ад балды пісалі біяграфію В.Шэймана. У адпаведнасці з дзейным заканадаўствам, перад прызначэннем на новую пасаду Шэйман абавязаны быў падаць уласнаручна запоўненыя анкету і аўтабіяграфію. Непасрэдна ў анкеце маецца пункт № 6 «Вучоная ступень, вучонае званне (калі прысвоены, нумары дыпломаў)». Вось у гэтай графе і магло быць указана, што ён з'яўляецца прафесарам АБОП. На аснове гэтых звестак неадпаведная рэчаіснасці інфармацыя і магла быць перададзена ў дзяржаўнае тэлеграфнае агенцтва, мяркуе блогер.

Нават калі сам Шэйман не ведаў, што ўяўляе сабой тая «Акадэмія», то, на думку блогера, ягоныя біяграфічныя звесткі павінны былі праверыць адпаведныя інстанцыі. А калі не правяралі, то або халатна паставіліся да сваіх абавязкаў, або Шэйман з нейкіх прычын не падпадае пад звыклую працэдуру праверкі.

Блогер таксама ставіць пытанне, ці не мог і Шэйман атрымліваць неабгрунтаваныя даплаты да службовага акладу за вучонае «званне» лжэакадэміі.

Дарэчы, беларускае аддзяленне АБОП, гэтага кірмашу постсавецкай фанабэрыі, узначальваў нехта Мікалай Іванавіч Чаргінец.

**Фотафакт**




**На волю выйшаў палітвязень Васіль Парфянкоў**

Хлопец адбываў паўгадавы арышт у Баранавічах. Парфянкоў быў асуджаны за парушэнне ўмоваў нагляду, якія былі ўсталяваныя пасля адбыцця пакарання за Плошчу-2010. Яшчэ мінімум 5 месяцаў за Парфянковым будзе заставацца нагляд. «Першы тэрмін даўся мне лягчэй», — сказаў па вызваленні Парфянкоў.

## Мікалай Корбут здымае тэлефон, але не адказвае на пытанні

У Кіраўніцтве справаў прэзідэнта **карупцыйны скандал**.

Меркаванне пра тое, што Шэйман адпраўлены ў кіраўніцтва справамі прэзідэнта, каб расчышчаць «аўгіевы стайні», апраўдалася.

На тым тыдні Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па дзейнасці структуры.

«Адбываюцца невытлумачальныя — я гэта мякка кажу — маніпуляцыі з эканамічнымі паказчыкамі. Больш за тое, выкрываюцца прамыя фінансавыя парушэнні, якія становяцца прадметам разгляду з пазіцыі ўжо Крымінальнага кодэкса. Невытлумачальна, як гэта стала магчыма ў дадзенай структуры», — заявіў Лукашэнка.

Ужо пасля нарады Віктар Шэйман быў больш канкрэтны. Ён паведаміў пра сур'ёзныя парушэнні пры ажыццяўленні закупак для будаўніцтва ды іншых сферах. «Незаконным дзеянням асобных службовых асобаў ужо дадзена прававая ацэнка, у дачыненні да некаторых заведзены крымінальныя справы», — паведаміў Шэйман.

Паводле звестак Камітэта дзяржкантролю, 15 арганізацый Кіраўніцтва справамі ў 2009-2012 гадах ажыццяўлялі фінансавую дзейнасць з суб'ектамі гаспадарання, якія мелі прыкметы ілжэпрадпрымальніцтва.

Аднак у Следчым камітэце пакуль не называюць прозвішчы тых людзей, супраць каго заведзеныя крымінальныя справы. Яшчэ да нарады ў Лукашэнкі некаторыя СМІ паведамілі пра змяшчэнне пад хатні арышт былога кіраўніка справамі прэзідэнта Мікалая Корбута.

Мы вырашылі патэлефанаваць асабіста былому «заўхозу» Лукашэнкі, каб спраўдзіць інфармацыю. Адбыўся наступны дыялог.

— Мікалай Мікалаевіч?

— Так.

— Добры дзень! З «Нашай Нівы» турбуюць. З'явілася інфармацыя пра ваш арышт...

— Адкуль вы?

— Газета «Наша Ніва».

— Прабачце, да пабачэння.

Пры хатніх арыштах часам дазваляюць, а часам не дазваляюць размаўляць па тэлефоне. Напрыклад, Ірыне Халіп і Уладзіміру Някляеву не давалі карыстацца мабільнікамі і інтэрнэтам. А вось міліцыянт Дзінас Лінкус даваў «НН» інтэрв'ю пад хатнім арыштам.

**Зміцер Панкавец**

**Васільеву далі па максімуме**

Былога намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Васільева асудзілі на 14 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці. На высокай пасадзе Васільеў адпрацаваў менш за два гады. Абвінавачвалі ж яго ў выманьванні хабару 500 тысяч даляраў, палову ад якога ён атрымаў у сваім кабінеце летась. Гэта ці не самы жорсткі прысуд высокаму чыноўніку за гады кіравання Лукашэнкі.

# Расійскі аўтапрам заваёўвае Беларусь

Самая папулярная марка — «Лада», а мадэль — «Лада Прыёра».

Мытны саюз істотна ўплывае на беларускі рынак. Сведчанне таму — леташнія вынікі продажаў аўтамабіляў у нашай краіне. Паводле звестак Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, у 2012 на радасць дылераў было прададзена 20 648 машын, гэта на чвэрць больш, чым у 2011. Гэта адбылося нягледзячы на тое, што аўтамабілі ў салонах падаражэлі на 17—18% праз увядзенне іншай сістэмы збірання падатку на дададзеную вартасць.

Пры гэтым доля юрыдычных асобаў у агульнай лічбе продажаў вырасла. Яшчэ ў 2011 фізічныя асобы набылі 75% аўто, летась — менш за палову.

### «Лады» наперадзе

Самай папулярнай маркай стаў расійскі ВАЗ. У краіне прадалі 2951 такі аўтамабіль, праўда, вялікая частка прыйшлася на дзяржаўныя закупкі. На другім месцы — «Фальксваген» (2586), на трэцім — «Рэно»+«Дачыя» (2067). Услед за імі карэйская «Кіа» і расійскія ГАЗ і УАЗ.

Яшчэ пазалетась з істотным адрывам лідзіравалі «Фальксвагены», а ВАЗ ішоў нага ў нагу з «Рэно».

Што да канкрэтных мадэляў, то тут першынство расійскіх аўтамабіляў зусім бясспрэчнае — у рэйтынгу лідзіруюць «Лада Прыёра» (1231), продажы якой павялічыліся ўтрая, і «Лада Ніва» (871). Новых «Фальксвагенаў Пола Седан» было прададзена 856, а «Дачыя Логан» і «Дачыя Сандэра» — 759 і 649 адпаведна. Адметна, што пяцёрка лідараў тая самая, што і ў 2011, вось толькі на першым месцы тады была «Дачыя Логан».




**«Лада Прыёра»**

Вытворчасць пачалася ў Тальяці (Расія) у 2007 годзе. Гэта дапрацаваная версія мадэлі ВАЗ-2110. Мае мадыфікацыі «седан», «хэтчбэк» і «ўніверсал», усе яны прадаюцца ў Беларусі.

Самая танная мадыфікацыя — «Прыёра седан». Мае пярэдні прывад, бензінавы рухавік 1,6 л, 5-прыступкавую механічную каробку перадач. Расход паліва — 7,2 л/100 км. Максімальная хуткасць — 183 км/г. Да 100 км/г разганяецца за 11,5 с.

Кошт такога аўто — $10 500.

**Што купляюць у свеце?**

**Еўропа** — 12,5 мільёна аўто

1. Volkswagen Golf (432 000)



2. Ford Fiesta (306 000)



3. Volkswagen Polo (288 000)



**ЗША** — 14,5 мільёна аўто

1. Ford F-Series (646 000)



2. Chevrolet Silverado (418 000)



3. Toyota Camry (405 000)



**Продажы новых аўтамабіляў у пераліку на 1000 жыхароў**

Украіна — 4,8
Расія — 20,4
Беларусь — 2,2
ЗША — 4,6
Еўропа — 2,5

**Самыя папулярныя мадэлі ў Беларусі (па продажах новых машын) ***

2007 — «Дачыя Логан»
2008 — «Фальксваген Пасат»
2009 — «Таёта Карола»
2010 — «Дэу Маціз»
2011 — «Дачыя Логан»
2012 — «Лада Прыёра»

* звесткі Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі

### Украіна не здаецца

Цікава параўнаць беларускую сітуацыю з той, што склалася ў суседзяў. На першым месцы па продажах ва Украіне кампактная чэшская Skoda Octavia II (8000), аднак у спіну ёй дыхае «Лада Самара». На трэцім месцы карэйская Hyundai Accent. Усяго ва Украіне прадалі 218000 новых аўтамабіляў.

А вось у Расіі ВАЗ выцесніў усіх замежных канкурэнтаў. Прыблізна пароўну (па 120 тысяч аўто) там куплялі «Ладу Прыёру», танную «Ладу Гранту» і прасторную «Ладу Каліну». Усяго ў Расіі прадалі амаль 3 мільёны новых аўтамабіляў.

### «Джылі» выходзіць на старт

Як пісала ў папярэднім нумары «Наша Ніва», у бліжэйшы час у краіне пачнуцца продажы сумеснага беларуска-кітайскага аўтамабіля «Джылі» коштам $13 тысяч. Пераарыентацыі дзяржаўных закупак з «Ладаў» на «Джылі» будзе дастаткова, каб істотна паменшыць долю расійскіх аўтамабіляў на беларускім рынку.

Тым часам не здаецца і беларуска-іранскі «Саманд». Літаральна некалькі дзён таму было падпісана пагадненне пра выпуск яшчэ 2000 аўтамабіляў гэтай маркі пад Мінскам.

**Ягор Марціновіч**

## Хто і якія датацыі атрымлівае ў Еўропе?

Палякі атрымліваюць з бюджэту ЕС 11 мільярдаў еўра, Літва — 1,3 млрд штогод.

Кіраўніцтва Еўрасаюза дасягнула папярэдняй згоды наконт бю-джэту на 2014—2020 гады. Столь выдаткаў усталяваная на ўзроўні 969 мільярдаў еўра. Пры гэтым унёскі краін-членаў складуць 908 мільярдаў еўра. Цяпер гэты дэфіцытны бюджэт мусіць прайсці ўхваленне Еўрапарламентам.

Як будуць траціцца гэтыя грошы? Сістэма субсідый прадуманая так, каб выраўняць узровень развіцця краін. Паводле разлікаў, такое выраўноўванне прывядзе з часам да ўзмацнення ЕС як цэлага, а таксама гарантуе самадастатковасць у інфраструктуры і энергетычнай палітыцы.

Найбольшы донар Еўрасаюза — Германія. Краіны ж Цэнтральнай і Усходняй Еўропы атрымліваюць немалую дапамогу. Апошнія сем гадоў Польшчы штогод давалі каля 11 мільярдаў еўра. Літве — каля 1,3 мільярда еўра. Для параўнання: Беларусь у тры разы большая, чым Літва.

Сума датацый разлічваецца ў залежнасці ад памеру ВУП краіны, патрэбаў таго ці іншага сектара, а таксама ўмоваў, якія краіна выгандлявала ў часе складаных унутрыеўрапейскіх перамоваў. Літва на грошы Еўрасаюза пераабсталявала школы і ўніверсітэты, разбудавала аэрапорты, інвеставала ў турыстычныя аб'екты і аўтатрасы. Вялізныя сумы атрымліваюць з еўрабюджэту сяляне. Крайне важнымі былі праекты падлучэння энергасетак да еўрасаюзаўскіх, што дае падушку бяспекі на выпадак энергетычнага шантажу.

**СГ**




На гэтай схеме відаць, хто ў бюджэт Еўрасаюза больш плаціць (цёмным), а хто больш атрымлівае (светлым). Сума датацый пазначаная на белым фоне, сума выплат у бюджэт — на чорным. Статыстыка 2011 года.

## Сцісла

### Інфляцыя пачала разгон

Белстат падлічыў, што за студзень цэны выраслі на 3%. Гэта чвэрць ад гадавога плана. Пры гэтым студзеньскі рост камунальных тарыфаў пакуль не ўлічваўся, яго дададуць у лютым. Для параўнання, у Еўрасаюзе гадавая інфляцыя складае 2%.

### Цэны на газ для аўто стануць свабоднымі

З 5 мая запраўкі самі змогуць вырашаць, па якой цане прадаваць звадкаваны газ для аўтамабіляў. А пакуль што міністэрства эканомікі павялічыла цану ў сярэднім на 8%. Звадкаваны газ цяпер каштуе 4600—5100 рублёў.

### Капрамонт будзе аплачваць уласнік жылля

Усе работы, якія будуць праводзіцца ў кватэры падчас капітальнага рамонту, будуць аплачвацца ўласнікам. Размова ідзе пра падводку і разводку сістэмы водазабеспячэння і каналізацыі, замену электрыкі, вокнаў. Гэта дазволіць на 30% знізіць затраты бюджэту на правядзенне капрамонту.

### Не стаў прыбытковым — плаці па поўнай

Дзяржава пачала выдаваць прадпрыемствам крэдыты па новых умовах. Першым стала «Салодкая краіна» з Аршаншчыны, якая атрымае 16 мільёнаў еўра. Стаўка па крэдыце складзе 15%. 6% з іх будзе кампенсавацца з мясцовага бюджэту. Калі ж прадпрыемства не выканае паказчыкі рэнтабельнасці, аплаціць працэнты за папярэдні год давядзецца самастойна.

### Лукашэнка загадаў павысіць кошт арэнды для бізнэсу

«Што тычыцца арэнды будынкаў і памяшканняў, імем рэвалюцыі прывесці ўсё ў адпаведнасць з рынкавым коштам! У Мінску сёння праблем здаць плошчы ў арэнду няма. Але галоўнае, што ў арэнду за капейкі здаём, а яны пераздаюць ў субарэнду ў 3–4 разы вышэй», — заявіў ён на нарадзе па пытаннях дзейнасці Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Многія камерцыйныя структуры атрымлівалі прывілеі, некаторыя плошчы прадастаўляліся без аўкцыёнаў.

### У Венесуэле дэвальвацыя

Курс нацыянальнай валюты, які раней складаў 4,3 балівара за даляр, цяпер знаходзіцца на ўзроўні 6,3 балівара за даляр. Такім чынам, дэвальвацыя валюты склала 46,5%. Мэтай дэвальвацыі з'яўляецца паніжэнне кошту экспарту і, як вынік, павышэнне яго аб'ёму. Чорны курс даляра тым часам складае каля 18 баліварау.

**ЯМ**

# Беларускае каханне

З Днём **святога Валянціна**!

Дзень святога Валянціна адзначаецца ў гонар раннехрысціянскага святога, што насіў гэтае імя, але паходзіць ад рымскіх луперкалій. Луперкаліі былі фестывалем эратызму ў гонар багоў кахання. Луперк — адна з мянушак Фаўна, паганскага бога мілавання і заступніка статкаў, дзень якога адзначаўся штогод 14 лютага. Месца, дзе ваўчыца, па легендзе, выкарміла Ромула і Рэма (заснавальнікаў Рыма), лічылася ў рымлян святым.

Штогод 15 лютага тут праводзіліся святы, званыя «Lupercalia» (па-лацінску lupo — «ваўчыца»), падчас якога ў ахвяру прыносіліся жывёлы. З іх скур выраблялiся бізуны. Пасля рытуальнай бяседы маладыя людзі бралі гэтыя бізуны і выходзілі ў горад лупцаваць жанчын.

Рэч у тым, што адзін з аракулаў аднойчы прараказаў, што сцябаць жанчын бізуном з ахвярнай скуры трэба, каб павялічыць нараджальнасць. Гэта сталася ў часе, калі па Рыме пракацілася хваля мёртванараджэнняў і выкідышаў. Так супала, што пасля лупцовак спынілася, і гэта патлумачылі іх пазітыўным эфектам лупцоўкі.

У часе луперкалій голыя хлопцы з папругамі з казлінай скуры бегалі між жанчынамі і сцябалі іх. Жанчыны ахвотна падстаўлялі сябе пад удары, лічачы, што гэта дасць ім пладнасць і лёгкія роды.

У гэтым бясчынстве ўдзельнічалі і члены шляхетных сямействаў. Быў заўважаны нават Марк Антоній. У канцы абраду жанчыны таксама раздзяваліся дагала.

Нічога дзіўнага, што луперкаліі былі такімі папулярнымі, і, нават калі многія іншыя паганскія святы былі адменены з прыходам хрысціянства, гэтае яшчэ доўгі час адзначалася.



Сцяпан і Віялета — студэнты-першакурснікі БДУ, мінчукі. Сустракаюцца 1,5 года.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Вольга і Ігар. Ён вучыцца на палітолага-юрыста, а яна — на перакладчыка. Мінчукі. Сустракаюцца ўжо тры гады. Хутка панясуць заяву ў ЗАГС.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У 494 годзе н. э. папа Геласій I паспрабаваў забараніць луперкаліі. Святу, якое прыйшло ім на замену, быў прызначаны нябесны заступнік — святы Валянцін, якога ў 269 годзе н. э. рымскі імператар Клаўдзій II загадаў забіць за прапаведніцкую дзейнасць сярод моладзі. Ён быў пакараны 14 лютага.

У познім сярэднявеччы ў Францыі і Англіі жыццё св. Валянціна паступова пачало абрастаць легендамі, звязанымі з таемным шлюбам закаханых пар.

Паводле легенды, у тыя далёкія часы імператар убіў сабе ў галаву, што самотны мужчына — без сям'і, жонкі і абавязкаў — лепш б'ецца за радзіму на полі бітвы, і забараніў мужчынам жаніцца. А святы Валянцін быў звычайным святаром, які спачуваў няшчасным закаханым і ўпотай ад усіх, пад покрывам ночы, асвячаў шлюбы.

Святара кінулі ў турму, асудзілі на смерць. У турме святы Валянцін пазнаёміўся з дачкой наглядчыка — Юліяй. Закаханы святар перад смерцю напісаў ёй прызнанне ў каханні — валянцінку. І хоць яго пакаранне адбылося 14 лютага 269 года нашай эры, ён застаўся ў памяці людзей. Гэтая светлая духоўная легенда змяніла паганскае гульбішча.

Мы далі абвестку на сайце НН: шукаем пару, якая хоча сфатаграфавацца для першай паласы газеты да Дня Святога Валянціна. Вам застануцца фоты на памяць аўтарства Сяргея Гудзіліна. А Ваш пацалунак застанецца на добрую памяць чытачам «Нашай Нівы» пра Святога Валянціна — 2013. У той жа вечар патэлефанавалі чатыры пары! На першую старонку выбралі тых, што найдаўжэй разам.

**Сяргей Гезгала**

**Больш фотаў — на NN.BY.**



Максім і Вольга. Ім па 36 гадоў, з якіх у шлюбе 15. Маюць дваіх дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку. Максім працуе праграмістам, а Вольга — скрыпачка Дзяржфілармоніі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Андрэй і Вікторыя — студэнты БДУ. Андрэй з вёскі Доўск (Гомельская вобласць), а Вікторыя — з Гомеля. Сустракаюцца ад пачатку вучобы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фотафакт**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Кастусь Севярынец пераклаў на расейскую мову і прэзентаваў кнігу свайго сына, палітвязня і пісьменніка Паўла «Люблю Беларусь». «Задача перакладу, — кажа Севярынец-старэйшы, — адкрыць Расеі тую Беларусь, якой яна ва ўпор не заўважае».**

# Брава і Федарэнка не трапілі ў шорт-ліст прэміі Гедройца

11 лютага беларуска-польскае журы адабрала з дванаццаці кніг шэсць. Гэта «Зямля пад крыламі Фенікса» Сяргея Балахонава, «Гамбургскі рахунак» Альгерда Бахарэвіча, «Сказы» Адама Глобуса, «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» Уладзіміра Някляева, «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега» Людмілы Рублеўскай і «Шал» Юрыя Станкевіча.

У шорт-ліст не трапілі кнігі, якія высока ацэньваліся крытыкамі: «Рай даўно перанаселены» барысаўскай пісьменніцы Алены Бравы, а таксама зборнік Андрэя Федарэнкі «Ланцуг».

**ЮУ**

# З крыўдзіцеля наваполацкай кантралёркі знялі крымінальную адказнасць

Гэта не канец гісторыі — на кантралёрку Шахліну **падаюць у суд** іншыя ўдзельнікі інцыдэнту.

Наваполацкі гараддзел Следчага камітэта скончыў папярэдняе следства па нашумелай справе аб збіцці кантралёркі аўтапарка №6 Людмілы Шахлінай. Следчыя ўлічылі чыстасардэчнае раскаянне яе крыўдзіцеля Аляксандра Блінова, а таксама яго станоўчыя характарыстыкі і поўнае пакрыццё нанесенай ім шкоды, і знялі з яго крымінальную адказнасць. Акрамя таго, пацярпелая сама хадайнічала аб спыненні справы. Дарэчы, пасля інцыдэнту яна больш не працуе кантралёркай.

Такое развіццё справы даволі нечаканае. Гэта падобна на міравое пагадненне паміж бакамі, але пакуль няясна толькі, хто яго ініцыяваў.

Гісторыя ў наваполацкім аўтобусе ў хуткім часе можа атрымаць новае развіццё. Іншыя ўдзельнікі канфлікту — сям'я, за якую заступіўся Бліноў, — падаюць на былую кантралёрку Шахліну ў суд. «З нашым сынам месяц займаўся псіхолаг, малога цяпер у аўтобус сілай не зацягнеш», — расказаў карэспандэнту непасрэдны ўдзельнік канфлікту, які назваўся Ігарам. Вынікі медэкспертызы пацвердзілі наяўнасць у яго жонкі пабояў. «Мы ўжо падавалі заяву ў суд. Але там сказалі чакаць завяршэння папярэдняга расследавання».

Па яго словах, іх з жонкай двойчы выклікалі для дачы сведчанняў па справе. Ладзілі ім вочную стаўку з іншымі ўдзельнікамі здарэння. А потым яны ўжо з уласнай ініцыятывы цікавіліся ходам справы. Розгалас вакол здарэння ў Наваполацку ўжо прыціх. У гарадскіх аўтобусах з'явіліся відэакамеры.

У цэлым Ігар задаволены вынікам расследавання, але пры гэтым перакананы, што з Блінова трэба зняць усю адказнасць за яго ўчынак.

**Сямён Печанко**

# Ці могуць ЗША ўдарыць па Паўночнай Карэі?

У аўторак Паўночная Карэя правяла чарговае **выпрабаванне ядзернай зброі**.

Выбух 2013 года стаў самым магутным з трох, праведзеных Пхеньянам (два іншыя выпрабаванні адбыліся ў 2006 і 2009). Нягледзячы на крытыку з боку ААН, 12 лютага каля 06:00 па мінскім часе назіральнікі ў Азіі зафіксавалі землятрус магнітудай да 5,2 бала, што магло сведчыць пра выбух. Пасля карэйскія СМІ афіцыйна паведамілі пра паспяховую акцыю.

Новыя выпрабаванні выклікалі рэзкую крытыку сусветнай грамадскасці, Рада Бяспекі ААН сабралася на экстранае пасяджэнне. Нават Беларусь асудзіла дзеянні КНДР. Але ці можа апошняе ядзернае выпрабаванне на тэрыторыі Паўночнай Карэі стаць падставай для ЗША нанесці прывентыўны ўдар? «Наша Ніва» спытала пра такую магчымасць у вайсковага аглядальніка газеты «Беларусы і рынак» Аляксандра Алесіна.

**Аляксандр Алесін:** Усё залежыць ад таго, як хутка Паўночная Карэя атрымае боегалоўку, якую будзе здольна даставіць на тэрыторыю ЗША. Калі будзе існаваць такая небяспека, прывентыўны ўдар магчымы. Але не факт, што бомбу кшталту той, што выбухнула 12 лютага, Пхеньян можа запусціць у ЗША. Для гэтага патрэбна маленькая боегалоўка, атрымаць якую ў Паўночнай Карэі, апіраючыся на тэхналогіі СССР 1960—1970-х, дастаткова складана, на гэта патрабуецца час.

У Пхеньяна ёсць ракеты «Скад», ёсць балістычныя ракеты Р-27 (я маю на ўвазе савецкія тэхналогіі і чарцяжы), але каб з гэтага зрабіць паўнавартасную балістычнную ракету, трэба шмат часу і высілкаў. Да таго ж патрэбны сучасныя матэрыялы, якія маюцца ў развітых краінах — ЗША, Расіі, Кітаі, але іх няма ў Паўночнай Карэі. І малаверагодна, што яны з'явяцца там у вялікай колькасці, асабліва калі Кітай закрые сваю мяжу.

Што тычыцца Паўднёвай Карэі, яна наўрад ці распачне актыўныя дзеянні, бо без вайсковага патэнцыялу ЗША яна дастаткова беззаборонная перад сваім паўночным суседам. На Сеул, які знаходзіцца за 50 кіламетраў ад мяжы, нацэлена артылерыя, ракеты «Скад», якія «дабіваюць» да сталіцы. І ў выпадку канфлікту Паўночная Карэя абрушыць на Паўднёвую ўвесь свой вайсковы патэнцыял. Улічваючы шчыльнае засяленне тэрыторыі, наяўнасць індустыйных аб'ектаў, такая атака прывядзе да шматлікіх ахвяраў, буйной эканамічнай і экалагічнай шкоды.

**«Наша Ніва»: Калі да ўлады прыйшоў Кім Чэн Ын, назіраліся нейкія прыкметы лібералізацыі Паўночнай Карэі. І раптам — выпрабаванні ядзернай зброі. Як растлумачыць такі крок?**

**АА:** Тут трэба ўспомніць стыль дыпламатыі таты і дзеда дзейснага карэйскага лідара. Звычайна на чарговаму этапу перагавораў папярэднічала запалохванне. Нядаўнім запускам ракеты Паўночная Карэя вывела на арбіту невядома што, але тры ступені адпрацавалі добра. Калі СССР выводзіў у космас свой спадарожнік, галоўнай мэтай было прадэманстраваць ЗША наяўнасць балістычнай ракеты. Зараз Пхеньян нібыта паказаў, што ў яго ёсць што пакласці ў ракету. Гэта запалохванне, Кім Чэн Ын таксама «набірае вагу» для перамоваў, каб атрымаць больш. Трэба таксама ўлічваць, што зрабіць адну боегалоўку, задзейнічаўшы ўсю эканоміку, не значыць распачаць масавы выраб. Канфлікт нявыгадны і Паўночнай Карэі, якая моцна залежыць ад гуманітарнай дапамогі, яе эканоміка перанапружаная, і пры адсутнасці дапамогі, у выпадку, напрыклад, неўраджаю, карэйцам літаральна не будзе чаго есці.



**Паўночнакарэйцы часта дэманструюць свету сваю вайсковую моц, але ці стаіць што-небудзь за гэтай шырмай?**

**Гутарыў Кірыла Хілько**

# Атруцілася гусяцінай

У чэшскім Нове Места пачаўся Чэмпіянат свету па біятлоне. Пакуль у скарбонцы зборнай Беларусі няма медалёў. Галоўная наша надзея — Дар'я Домрачава — засмучае вынікамі.

У спрынце яна была толькі 43-й (закрыла 5 мішэняў з 10). А ў пагоні — 25-й. Гэта вельмі далёка ад тых вынікаў, якіх чакаюць беларусы ад спартсменкі.

Затое нечакана добры вынік паказваюць украінкі. Яны ўжо здабылі тры ўзнагароды. Золата і бронза Алены Підгрушнай і бронза Віты Семярэнкі.

У Домрачавай яшчэ наперадзе індывідуальная гонка і масстарт, каб кампенсаваць няўдачы.

Дарэчы, перад самым чэмпіянатам яна атруцілася ў Нямеччыне гусяцінай. Нават тэмпература трымалася суткі. Магчыма, гэта таксама адна з прычын непераканаўчых выступаў.

**ЗП**



# У Ярмошынай заробак — 10,5 млн рублёў; але яна шкадуе пра страчаную свабоду

У «Народнай газеце» прайшла анлайн-канферэнцыя са старшынёй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай.

Якую зарплату атрымлівае Ярмошына?

— Гэта не сакрэт. Зарплата ў мяне прыкладна такая ж, як у дэпутата палаты прадстаўнікоў: чыстымі ў месяц выходзіць 10,5 мільёна рублёў. Ёсць яшчэ пенсія — каля двух мільёнаў рублёў.

Пра што вы больш за ўсё шкадуеце за час знаходжання на пасадзе старшыні ЦВК [ад канца 1996 г.]?

— Пра страчаную свабоду. Свабоду быць самой сабой і проста нават спакойна пахадзіць па крамах.

**АГ**

# «Славенцы атрымліваюць $5–6 тысяч, беларусы — $50–60 тысяч»

Зборная Беларусі па хакеі **не трапіла на Алімпіяду** ў Сочы.



Славенцы паставілі беларусаў у няёмкае становішча.

У першым матчы алімпійскай кваліфікацыі ў дацкай вёсачцы Ваенсе нашы хлопцы саступілі Славеніі — 2:4. Пасля былі перамогі над Украінай (6:0) і Даніяй (3:2), якія не падсаладзілі пілюлі. У Сочы паедуць балканцы.

Феноменальная Славенія, маючы два мільёны насельніцтва, умудраецца ўдала выступаць у футболе, баскетболе, гандболе, цяпер і хакеі.

Вынікі кваліфікацыі мы папрасілі пракаментаваць галоўнага рэдактара газеты «Прессбол» Уладзіміра Бяражкова, які раней быў віцэ-старшынёй хакейнай федэрацыі Беларусі.

**«Наша Ніва»: Для Вас пралёт зборнай міма Алімпіяды стаў сюрпрызам?**

**Уладзімір Бяражкоў:** Не. Уласна кажучы, усё да гэтага ішло. Яшчэ даўно сказаў, што ў нас мала шанцаў. Яшчэ пры Навумаву як кіраўніку федэрацыі быў прыняты план, паводле якога мы павінны былі трапіць у чацвёрку на Алімпіядзе ў Сочы, а на хатнім чэмпіянаце свету заняць трэцяе месца. Гэта быў валюнтарысцкі падыход, які засціў нам вочы. Спынілася падрыхтоўка рэзерву, мала імёнаў. Тыя беларусы, што ёсць у КХЛ, хутчэй цягаюць піяніна, а не граюць на ім. Нават калі федэрацыя стварыла камісію па вывядзенні з крызісу, куды ўвайшлі Ворсін, Барадзіч і іншыя, першым рашэннем было заснаваць прэміяльны фонд у 500 тысяч даляраў. Але, прабачце, у хакей гуляюць не грашыма, а гульцамі!

**«НН»: Будзе нейкі разбор палётаў на дзяржаўным узроўні?**

**УБ:** Іх было ўжо столькі шмат... Трэба мяняць усё ў корані. Славенскія хакеісты гуляюць у шведскіх, нямецкіх клубах, дзе атрымліваюць максімум 5–6 тысяч даляраў, нашы ж атрымліваюць 50–60 тысяч за месяц.

**«НН»: То бок Вы згодныя, што грошы кепска ўплываюць на наш хакей?**

**УБ:** Канечне. Калі плацяць ні за што. Толькі за тое, што яны гуляюць у КХЛ.

**«НН»: Ці ёсць шанец пазбегнуць канфузу на хатнім чэмпіянаце свету ў 2014 годзе?**

**УБ:** Не. Трэба рэальна ацэньваць свае сілы. Адзіны шанец трапіць у паўфінал, як было пастаўлена, гэта, калі ў Мінск не прыедуць вядучыя зборныя. Нічога добрага ад гэтага чэмпіянату не трэба чакаць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Беларус 12 гадоў быў у рабстве на рыбнай ферме ў палкоўніка МУС

Валанцёры ў Арэнбургу вызвалілі грамадзяніна Беларусі, які 12 гадоў правёў у рабстве на рыбнай ферме палкоўніка МУС, паведаміў лідар руху «Альтэрнатыва» Алег Мельнікаў.

Паводле яго слоў, у сябе на радзіме вызвалены мужчына лічыцца мёртвым.

«У нас цяпер адзіная праблема з дастаўкай яго ў Маскву, таму што дакументы мы, на жаль, не можам аднавіць», — сказаў ён.

Завуць беларуса Мікалай Шпак, сам з Мазыра. Цяпер знаходзіцца ва Уфе, дзе чакае афармлення дакументаў. Некалькі разоў ён спрабаваў уцячы з фермы, але яго лавілі.

Нядаўна яму шчадалося звязацца з сям'ёй, паведаміць, што жывы. Пасля гэтага і пачаліся пошукі.

Пляменнік Шпака ў інтэрв'ю tut.by сказаў, што дзядзьку кармілі толькі «пярлоўкай і хлебам, ды і тое не кожны дзень».

**Лявон Максюта**



**Фотафакт**



**На Філіпінах памёр самы вялікі ў свеце кракадзіл. Ён важыў каля тоны, жыў у экалагічным парку ў правінцыі Агусан дэль Сур. Паводле дадзеных экспертаў, кракадзіл пражыў каля 50 гадоў.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Эксгумацыя болю

Упершыню я ўбачыў гэта месца на малюнку, што выменяў у палоннага немца за кавалак хлеба і дзве цыбуліны.

На фанерцы, мо ад нейкай скрыні, былі намаляваны працяглы ўзгорак, пад ім рака, схаваная пад ільдом, драўляны мост, дрэвы, што нахіліліся над ракой, жаночая фігурка з карамыслам і двума вядзерцамі... І многа, вельмі многа снегу...

Я пазнаў гэта месца ў верасні 1958, калі са здзіўленнем і хваляваннем углядаўся ў XI стагоддзе — на драўляныя мінскія маставыя, падмурак царквы, рэшткі жылля...

У тое стагоддзе нас, студэнтаў першага курса гістфака, прывёў Эдуард Міхайлавіч Загарульскі, які толькі распачаў раскопкі старажытнага Мінска. Малады, натхнёны...

Першай маёй знаходкай быў жалезны шруб, што раптам бліснуў з-пад гною ўперамешку з глебай і нейкім зернем. Загарульскі пакруціў яго ў руках, сунуў у карман і незадаволена прабурчэў: «Забаўляюцца хлопцы, рабіць нечага. Унь, бачыце?» Я ўзняў вочы. На рыштаваннях будоўлі, што навісла на самым раскопам, парасселіся, бы нейкія пеўні на седалы, будаўнікі і, рагочучы, час ад часу кідалі ў XI стагоддзе здабыткі XX-га: цвікі, шрубы, гузікі...

Днямі я патэлефанаваў Загарульскаму і спытаў, што ён чуў пра існуючы праект аднаўлення Мінскага замчышча. Адказ здзівіў мяне: амаль нічога. «Як нічога?! — усклікнуў я. — Што, да вас, самага грунтоўнага даследчыка Замчышча, ніхто не звяртаўся?!» Прыйшлося падрабязна расказаць пра тое, як са слоў аўтара праекта архітэктара Сяргея Багласава будзе выглядаць так званы «нацыянальны гісторыка-археалагічны цэнтр «Замчышча». Праект існуе ўжо трэці год, вакол яго вядуцца нейкія няўцямныя спрэчкі. Але ўжо ў 2014, калі верыць Багласаву, на месцы таго самага, падобнага на стайню, збудавання і навокал пачнецца вяртанне сучаснаму Мінску яго старажытнага пачатку...

Загарульскі ўважліва выслухаў, а потым сказаў: «Забаўляюцца хлопцы... Ніякага замчышча там ужо няма...» — «Адбудуюць...» — «Як гэта — адбудуюць?» — «Ну, там многа

**«Забаўляюцца хлопцы... Ніякага замчышча там ужо няма...» — «Адбудуюць...»** »

чаго прадугледжана: галерэі, амфітэатр, нават вуліцы, дамы, уязная брама, абарончыя валы, лазеры-шмазеры для нейкага гістарычнага шоу... Нават частку таго, што вы калісьці раскапалі, зноў адрыюць — і падмурак першай царквы, і драўляныя вуліцы...» — «Падмурак, магчыма, і захаваўся...» — з нейкай скрухай вымавіў Загарульскі.

Я разумею яго. Старажытны Мінск — ягоны пажыццёвы боль, які ўвабраў у сябе і лепшыя гады жыцця, і адчайныя навуковыя спрэчкі, і кнігу «Узнікненне Мінска», і шкадаванне аб тым, як са згоды акадэмічных калег руйнавалася пад лязом бульдозераў і каўшамі экскаватараў тое, што пакінулі гораду бязлітасныя стагоддзі.

Але людзі яшчэ больш бязлітасныя — і тыя, што руйнавалі, і тыя, што наважыліся эксгумаваць сцішаны боль.

Чаму ж тых, хто выказвае супраціў усялякаму навабуду ў гістарычным цэнтры Мінска, называюць «плакальшчыкамі», лічаць нейкімі дурнымі істотамі, якія толькі перашкаджаюць гораду стацца, так бы мовіць, еўрапейскім, цікавым для замежнікаў і турыстаў? Адна журналістка так і абазвала падобны супраціў «дурасцю страху».

Але сапраўдная дурасць, калі не дзікунства, узнаўляць гістарычную спадчыну дзеля замежнікаў і турыстаў. Замежнікам і турыстам насамрэч цікава тое, як захоўваецца ці рэстаўруецца гістарычная спадчына для гараджан. Рэстаўруецца, а не будуецца нанова пад выглядам так званай «рэканструкцыі». І ўводзіць у зман фальшывым рэнесансам ці то Нямігі, ці то Траецкага прадмесця, ці то Верхняга горада... Ці то Замчышча, калі тое адбудзецца насамрэч.

Сапраўдная дурасць, калі не дзікунства, адрываць гістарычную памяць ад гістарычнай праўды.

А дзе яна, тая праўда? На дошцы, што вісіць на сцяне таго спартовага збудавання, з рыштаванняў каторага кідалася смецце ў XI стагоддзе: «На гэтым месцы... размяшчалася Мінскае замчышча — помнік археалогіі XI—XVI ст. Знаходзіцца пад аховай дзяржавы».

Загарульскі лічыць, што на былым Мінскім замчышчы магчыма адбудаваць хаця б частку таго драўлянага горада, які тут быў, але строга па навуковых планах. «Усе планы захаваліся, — гаворыць ён. І сцвярджае: — Пад зямлёй нічога няма, дрэва, глытнуўшы падчас раскопак паветра, спарахнела...»

Што ж, каму шалёныя грошы, а каму сціплая, але ж праўда. Яно вельмі балюча — губляць гістарычную памяць.

Але, калі ўжо так здарылася, я за тое, каб памяццю стаўся сам боль.

* * *

Малюнак таго палоннага немца, дарэчы, таксама згубіўся. Але гэта ўжо мая прыватная памяць, мой прыватны боль...

*kamerton_41@mail.ru*

# Андрэй Хадановіч. Ці можна застацца паэтам пасля 40?

**Паэт, перакладчык, выкладчык,** арганізатар літаратурных імпрэзаў. 13 лютага Андрэй Хадановіч святкуе саракагоддзе.

Напярэдадні свята мы пагутарылі з Хадановічам пра дзяцінства, каханне і шлях да творчасці.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

> Радаваўся, калі паказваў жонцы і дачцэ Парыж. Але самі яны радаваліся мацней

### Галоўная дзіцячая мара — стаць дарослым

Маё дзяцінства было шчаслівым. Галоўнай дзіцячай марай было стаць дарослым. А потым яно ператварылася ў галоўнае расчараванне. Адносіны з бацькамі склаліся найлепшым чынам. Ніхто большага эмацыйнага і пазітыўнага ўплыву на мяне не меў. Узгадваюцца яшчэ бабуля і дзядуля і мае дачарнобыльскія паездкі ў Гомельскую вобласць, у горад Чачэрск, дзе ў іх была хата з падворкам і садам. Звычайна ва ўсіх суседзяў усё было аддадзена пад гародніну і бульбу, а ў нас быў фруктовы сад.

### Мой тата быў някепскім «тролем»

Мой тата быў, як бы цяпер сказалі, «тролем». Ён не быў дысідэнтам, але мог уключыць праграму «Час», глядзець, як Брэжневу чапляюць узнагароды, і іранічна каментаваць. Я потым гэтую іронію спрабаваў паўтарыць у коле сваіх аднакласнікаў. Аднойчы паказваў, як генсак цалуецца з Хонекерам. А неяк потым прыйшоў у школу з інфармацыяй ад бацькоў пра «культ асобы» і рэпрэсіі — і стаў апавядаць пра гэта на палітінфармацыі.

### Дзіцё прагрэсу

Мяне цікавіла тэлевізія: навіны і спартыўныя перадачы. Мне было некалькі гадоў, я глядзеў хакейны матч, бацькі вырашылі настаяць на сваім і вырубілі тэлевізар, а я яго ўсё ўключаў. Бацьку было істотна давесці сваю рацыю, а мне было — зрабіць насуперак. У выніку ён выцягнуў засцерагальнік з тэлевізара, а ў знак пратэсту я ўсю ноч прасядзеў перад пустым экранам.

### Увесь час біўся

Біўся ўвесь час да сярэдзіны школы. Спачатку ў дзіцячым садку, пасля ў пачатковай школе. Мяне вадзілі ў садок, які быў далекавата ад дома, бо абіралі найлепшы, а атрымалася як заўжды. Дзеці там раслі ўсе разам, а я аказаўся чужым. Як кажуць, «у чужы манастыр са сваім статутам не ходзяць», а я заўсёды хадзіў. У мяне ніколі не было спартовага целаскладу, я быў хутчэй кругленькі, але досыць здаровы. Мяне пабіць было цяжка. Я не любіў гуляць па правілах, прыдуманых не мной.

**Андрэй Хадановіч**

нарадзіўся ў 1973 у Мінску. Скончыў рускую філалогію БДУ. Выкладае замежную літаратуру ў БДУ. Паэт, перакладчык. Старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра. Аўтар кніг «Лісты з-пад коўдры», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры» і іншых. Жанаты, гадуе дачку.

### Цярпеў за каханне

У дзіцячым садку я звяртаў увагу на тых, хто звяртаў увагу на мяне. Леначку, якая мяне заўважыла, я абагаўляў. На ціхіх гадзінах імкнуўся працягнуць руку да яе раскладанкі і пяшчотна палашчыць яе руку. За што мяне неяк пакаралі. Стаяў за гэта ў куце і страшна цешыўся. Пасля бацькам расказваў, што пацярпеў за каханне.

Калі мне было гадоў 14, я на той момант паспеў паразакохвацца паслядоўна ў 7 ці 8 дзяўчат. І у кожную, безумоўна, упершыню і да канца. (Наяўнасць папярэдніц, вядома ж, нічому мяне не вучыла.) І вось адна сказала, што ёй не падабаецца мая спартыўная форма. Я тады вырашыў заняцца сабой, запісаўся ў секцыю спартыўнай хадзьбы і паехаў на 2-месячныя зборы з абсалютна звар'яцелым трэнерам. Вярнуўся — зграбным хлопцам. Але жыццё зноў жартавала. Бацькі развяліся, я пераехаў у іншае месца і пачаў хадзіць у іншую школу. Хлопчык-спартовец дастаўся іншым дзяўчаткам.

### Размаўляй на беларускай мове на злосць казлам…

…якія дыскрымінуюць мову. Пасля рэферэндуму 1995 раптам нешта стукнула ў галаву расейскамоўнаму хлопчыку Хадановічу пачаць пісаць па-беларуску. Было ў гэтым нешта ад упартасці. А яшчэ больш — ад эстэтычнага адчування, што па-беларуску тут і сёння можна зрабіць нешта нашмат цікавейшае, чым на рускай мове, на якой — усё найважнейшае даўно прамоўлена. А ў нас — пры ўсёй павазе да класікаў — усё толькі пачынаецца.

### Я не герой байкі Кандрата Крапівы

Не думаю, што ўмею ганарыцца ўласнымі дасягненнямі, тым больш і ганарыцца няма чым, я ж не герой байкі Кандрата Крапівы. Але магу чамусьці радавацца нейкі час. Так, кожны раз радуюся, калі ўдаецца нешта зрабіць упершыню. Радаваўся сваёй першай кніжцы, якая выйшла адразу ў перакладах, ва Украіне. Радаваўся першай літаратурнай узнагародзе (на фестывалі ў Славеніі), першай перамозе на міжнародным паэтычным слэме. Радаваўся, калі не праваліў сваю першую ўніверсітэцкую лекцыю. Радаваўся, калі ўдалося першы раз арганізаваць конкурс і майстар-класы для маладых літаратараў, а потым укласці і выдаць кнігу з іх творамі. Радуюся, калі з ліцэістаў, якім я выкладаў літаратуру, выходзяць добрыя паэты. (Глеб і Антон, прывітанне!) Радаваўся, калі пераклаў «Крумкача» Эдгара По і «П'яны карабель» Арцюра Рэмбо. Дарэчы, пра французаў: радаваўся, калі паказваў жонцы і дачцэ Парыж. Але самі яны радаваліся мацней, асабліва дачка ў «Дыснэйлэндзе».

### Няма нічога страшнага ў сталенні

Проста разумееш, што адказваеш не толькі за сябе, але і за іншых, блізкіх табе людзей, за пэўныя справы, калі ўжо ўзяўся іх рабіць. Ну, і трэба быць гатовым да таго, што мілая дзяўчына, звяртаючыся па аўтограф на тваёй кніжцы, папросіць яе падпісаць... для мамы ці, яшчэ часцей, для настаўніцы беларускай літаратуры. І нікуды не дзенешся, будзеш падпісваць.

### Планы

Хачу за год выдаць адразу некалькі кніжак, нешта было падрыхтаванае даўно, а нешта зусім нядаўна. Вось-вось мае выйсці кніжка выбраных вершаў «Дэжа вю: перавыбранае», кніжка выбраных перакладаў «Разам з пылам», дзіцячая кніжка «Нататкі таткі» (ва ўкраінскіх перакладах яна ўжо выйшла, а вось арыгіналы — усё ніяк). Уклаў і пераклаў кнігу выбраных вершаў польскага паэта Рышарда Крыніцкага — чакаю, калі надрукуюць. Толькі што скончыў пераклад класічнай вершаванай камедыі Аляксандра Фрэдры «Помста» — спадзяюся ўбачыць яе тэатральную пастаноўку. Апроч таго, рыхтую да выдання новую кнігу «Карта памяці» — зборнік падарожных, «замежных» вершаў.

### Няма мабільнага тэлефона

Тое, што у мяне няма мабільнага тэлефона, хутчэй склалася гістарычна. А цяпер ужо і не хочацца нешта мяняць. Калі быць зусім шчырым, я карыстаюся мабільнікам за мяжой, дзеля, так бы мовіць, аператыўнай сувязі з домам. Калі ж я ў Беларусі, то найхутчэй або дома, або на лекцыях ці нейкіх публічных імпрэзах, калі ветлівыя людзі мабільнік адключаюць; або хачу колькі хвілін пабыць на самоце.

### Цяжка існаваць без электроннай пошты

Усё можа прыносіць карысць, нават сацыяльныя сеткі, калі карыстацца гэтым у меру і не трапляць у псіхалагічную залежнасць. Сёння мне было б цяжка існаваць без электроннай пошты (думаю, гэта форма кампенсацыі за адсутнасць мабільніка), без музыкі і розных тэкстаў, лёгкадаступных у інтэрнэце. Пакрысе адкрываю для сябе радасць чытання з рыдара (але зусім не збіраюся адмаўляцца ад папяровых кніжак).

### Ці можна застацца паэтам пасля 40?

Не ведаю, пакуль яшчэ не спрабаваў. Але ведаю некалькіх паэтаў, якім гэта ўдавалася. Што ўнушае пэўны аптымізм.

Не веру ў нейкую магію лічбаў, але часам лічуся з забабонамі людзей, якія мяне атачаюць. У святле гэтых забабонаў 40 гадоў — гэта калі ты не можаш належным чынам адзначыць уласныя народзіны. Таму — у якасці святкавання — маю чатыры ўніверсітэцкія лекцыі, паэтычную імпрэзу плюс яшчэ адзін вечаровы занятак у «Школе маладога літаратара».

**Вольга Гарапучык**

## Андрэй Хадановіч

Я ўваходзіў заместа дзікага звера ў клетку,
выціскаў клікуху й тэрмін цвіком у бараку,
жыў ля мора, гуляў у рулетку,
абедаў чорт ведае з кім у фраку.
Бачыў свет з ледзяной вышыні, за крок да абвалу.
Тройчы тануў, двойчы рэзалі грудзі.
Кінуў краіну, якая мяне ўзгадавала.
Скласці ўсіх, хто мяне забыў, — цэлы горад будзе.
Апранаўся па модзе ў тое, што перашыта;
вандраваў па стэпах, дзе гуны прайшлі ардою.
Чорным толем крыючы гумны, сеючы жыта,
не напіўся толькі сухой вадою.
Я ўпусціў сабе ў сны турмы варанёныя зрэнкі,
жэр хлеб выгнання, чужы абжываў падворак.
Дазваляў свайму горлу ўсе гукі, абы не енкі;
перайшоў на шорхат. Цяпер мне сорак.
Што сказаць пра маё жыццё? Мне яго хапіла,
каб дазнацца, што гора й страты — яго адзнакі.
Ды пакуль мне глінай рот не заб'е магіла,
з яго будуць чутныя толькі словы падзякі.

# Удар, а потым страшны крык

Дапамагаў дзецям, а самога **судзяць за смерць** школьніка.

Трагічны выпадак ці банальная няўважлівасць прывяла да смерці трэцякласніка? У Мінску судзяць кіроўцу «Паршэ Каена», які ў лістападзе збіў 9-гадовага Улада Грудзьева. Гэта адбылося за пару дзясяткаў метраў ад ганка школы. І пад забарону ПДР: знак не дазваляў пад'язджаць сюды на аўто.

Абвінавачаны — 37-гадовы Андрэй Забабура. На судзе яго трымалі за кратамі. І ўвесь час ён стаяў. Нават з гэтага было ясна: чалавек адчувае страшны боль. Ён так ні разу і не паглядзеў на маму хлопчыка. «Так, я аказаў ёй дапамогу, — сказаў ён на судзе. — Не як той, хто быў удзельнікам трагедыі, а як чалавек. Я адчуваю на сабе вялізную маральную адказнасць».

Напярэдадні суда мама Улада сказала ў інтэрв'ю «Комсомольской правде», што Забабура ахвяраваў ёй 200 мільёнаў рублёў. Яна казала таксама, што, калі ён не прызнае сваёй віны, яна будзе патрабаваць пакарання яго па максімуме. На судзе ж яна амаль не гаварыла падчас допыту: было цяжка. «Якім павінна быць пакаранне, калі суд установіць яго віну?» — запытаўся адвакат Забабуры ў Алены Грудзьевай. «Я не магу пакуль адказаць».

Андрэй Забабура — дырэктар адной прыватнай фірмы і намеснік кіраўніка ў іншай. У яго самога двое малых сыноў — пяці і двух гадоў. Менавіта старэйшага ён у той вечар і падвозіў: хлопчык наведваў секцыю каратэ, што месціцца ў будынку школы.

Мужчына займаўся дабрачыннасцю — дапамагаў хворым дзецям. А праца была звязаная з вырабам дзіцячых атракцыёнаў. «Калі жыццё прысвечана, каб прыносіць радасць дзецям, то ўсё, што адбылося, больш трагічна ўспрымаеш сам. Калі б я мог штосьці змяніць, зрабіў бы...»

Нягледзячы на ўсю прыгнечанасць, кіроўца «Паршэ» не прызнаў сябе вінаватым. «З маральнага пункта гледжання, безумоўна, я вінаваты, але абвінавачванне не прызнаю», — заявіў ён. Так, відаць, параіў адвакат. Апошні цісне на спагаду, калі звяртае ўвагу на жонку Забабуры з двума дзецьмі, якой цяжка цяпер без мужа.

### «Толькі цень мільгануў...»

Сярод сведкаў — 9-гадовыя аднакласнікі Улада. Яны разам гулялі пасля ўрокаў у «зомбі»: адзін даганяў астатніх. За Мацеем і бег Улад, калі трапіў пад аўто.

«Цемнавата было», — патлумачыў Яўген. Ён нават не заўважыў, як усё здарылася. І не зразумеў, што пад колы трапіў менавіта яго сябар. «Мы адразу напалохаліся і дадому пабеглі». Ягоная мама ўдакладніла: «Ён прыбег увесь белы: «Мама, там нехта трапіў пад колы».

«Я ўбачыў толькі цень, які мільгануў напярэймы. Удару я не чуў. Гэта было імгненне. Ацаніць, што гэта дзіця, было немагчыма», — так патлумачыў сам Андрэй Забабура. Але не разумее, адкуль жа ўзяўся хлопчык. «Гэта не могуць патлумачыць нават следчыя». А як выйшаў з машыны, хлопчык па грудзі ляжаў пад аўто.

Пацярпелымі прызналі маму хлопчыка, ягоных бабулю і дзядулю.

Адвакат у доказах невінаватасці кіроўцы даходзіць ледзь не да абсурду. Ён падвёў да таго, што Забабура не мог бачыць знакаў, якія забараняюць праезд і стаянку каля школы. Перад тым, як пад'ехаць, ён паспрабаваў паставіць машыну на стаянку побач. Але не было вольных месцаў. А пры выездзе са стаянкі не бачна забараняючых знакаў: маўляў, яны заўважныя толькі пры павароце з дарогі. «Дык вы нічога не парушылі?» — спытаўся адвакат. «Не задумваўся», — мужчына, відаць, не рашыўся крывіць душой.

**Сяргей Макарэвіч**



Улад разам з мамай.



Андрэй Забабура.

**Прававы казус**

Незалежны эксперт Аляксандр Канапліцкі паставіў пад сумненне высновы следства аб безумоўнай вінаватасці кіроўцы. Канапліцкі праводзіў дадатковую экспертызу месца здарэння. І заявіў на судзе пра неналежны агляд яго супрацоўнікамі ДАІ: няправільна ўказаныя месцазнаходжанне аўто і яго памеры. Разам з тым, праезную частку, на якой адбылося ДТЗ, аднеслі да прылеглай тэрыторыі. Але, згодна з правіламі дарожнага руху, яна адносіцца да дарогі. А ПДР, у тым ліку знак «Рух забаронены», што стаіць пры пад'ездзе да школы, не можа распаўсюджвацца на прылеглую тэрыторыю. І лічыць гэта прававым казусам.

Эксперт дапускае, што Забабура перад сутыкненнем бачыў хлопчыка, але тых доляў секунды не хапіла, каб прадухіліць наезд. У той жа час, паводле афіцыйнага заключэння, гэты час склаў не менш за 2 секунды, якіх хапала на экстранае тармажэнне.

## Вышук



**Мужчына на фота** падазраецца ў ашуканстве. Разам з прыяцелем ён на вуліцы рабіў выгляд, што згубіў грошы побач з пенсіянерам, і прасіў таго паказаць кішэні. Пакуль пералічваў грошы ахвяры, частку прысабечваў. У выніку ахвяра толькі дома заўважала адсутнасць грошай.

Ленінскае РУУС шукае людзей, якія маглі пацярпець ад мужчыны. Тэлефанаваць на: (017) 249-02-02, (029) 620-50-97.



Расшукваецца мінчанін **Паўлоўскі Валерый Валяр'янавіч**, 1977 года нараджэння. 18 студзеня каля 5.30 ён паехаў правесці знаёмую ў в. Навасады Барысаўскага раёна, і да сёння яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд 35 гадоў, рост 180—182 см, хударлявы, цёмныя валасы, быў апрануты ў цёмна-зялёную шапку, зімовую карычневую куртку, блакітныя джынсы, высокія чаравікі. На правай шчацэ мае шнар, на жываце ёсць шнар ад апендыцыту, на плячы і правым сцягне — татуіроўкі.

Хто ведае, дзе Валерый цяпер, просьба патэлефанаваць у Першамайскае РУУС Мінска: (017) 280-02-02, (017) 280-57-21.



Крычаўскі РАУС расшуквае **Студнева Андрэя Аляксеевіча**, ураджэнца г. Слаўск (Расія). Ён падазраецца ў прысваенні альбо растраце грошай у асабліва буйных памерах.

Прыкметы: на выгляд 25 гадоў, хударлявы, валасы цёмна-русыя, рост 170—175 см. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, просьба тэлефанаваць: (02241) 5-22-41, (029) 698-49-95.

# 15-гадовы баскетбаліст памёр пасля трэніроўкі

Яму абяцалі **паспяховую кар'еру** ў спорце.

Гулец юнацкай баскетбольнай зборнай Сяргей Жук нечакана памёр 5 лютага у Рэспубліканскім вучылішчы алімпійскага рэзерву. У дзіцяча-юнацкай лізе ён выступаў за каманду «Цмокі-Мінск-97».

Сяргею стала кепска ў душы пасля трэніроўкі. Там яго і знайшлі. Прыехала «хуткая», але адратаваць не змагла. Паводле папярэдняй інфармацыі, прычынай смерці мог быць адрыў тромба. Дакладна ж будзе вядома толькі пасля экспертыз.

Вядома, што яшчэ падчас трэніроўкі ў Сяргея пайшла носам кроў. Ён звярнуўся ў медпункт, але затым вярнуўся ў залу. Увечары ў яго мусіла быць гульня, таму яго моцна не нагружалі.

Хлопец паходзіў з Вілейкі. Там яго і пахавалі. Ён першы год навучаўся ў вучылішчы алімпійскага рэзерву. Яго заўважылі падчас спаборніцтваў: высокі рост, так патрэбны ў баскетболе, спалучаўся з добрай гульнёй. Абяцалі паспяховую кар'еру.

У сям'і застаўся яшчэ старэйшы сын. У пад'ездзе бацькоў Сяргея гэта другое пахаванне маладога хлопца за апошні час. У снежні памёр 20-гадовы юнак: лёг спаць і не прачнуўся.

**Кастусь Матушыч**



Сяргей — самы высокі.

## Сцісла

### Страляў па людзях

Мужчына зрабіў заўвагу нецвярозаму мінчуку, які лаяўся на аўтобусным прыпынку. У адказ той дастаў пнеўматычны пісталет і стрэліў у бок «крыўдзіцеля». А пасля пачаў пагражаць зброяй нейкай дзяўчыне. Яго затрымалі. Аказалася, што гэта 35-гадовы прадпрымальнік, раней судзімы за махлярства і нясплату аліментаў. 24 разы яго прыцягвалі да адказнасці за адміністрацыйныя правапарушэнні!

### За паўбітона малака

Чатыры даяркі ў Быхаўскім раёне скралі 10 літраў малака. Іх затрымалі падчас міліцэйскага рэйда. Цяпер кожнай давядзецца выплаціць мільён штрафу. Даяркі апраўдваліся тым, што атрымліваюць мізэрны заробак: 1,3—1,6 млн. Гэтага мала, каб пракарміцца, кажуць яны. Каб выжыць, даводзіцца красці.

### Злодзей выскачыў на хаду

Беларуска вярталася з камандзіроўкі з Расіі, разам з ёй у адным купэ ехаў мужчына са Смаленска. Жанчына выйшла літаральна на секунду здаць пасцель, вярнулася — а ў кашальку няма 55 тысяч беларускіх рублёў і тысячы расійскіх (=250 тысяч на нашы грошы). Яна за спадарожніка і да правадніцы. Ён вырваўся ды пабег у іншы вагон, яны за ім. Дык ён тады выскачыў з цягніка! Зламаў сабе нагу і страціў прытомнасць. Так яго і падабралі на дарозе, адправілі пад вартай у шпіталь.

**КМ**

# Выстава з кнігамі. З сэнсам і без

Працяг са старонкі 2.

Макараў паводзіў сябе так імпэтна, што многія палічылі яго супрацоўнікам спецслужбаў у цывільным.

Такі парадокс: стэнды незалежных выдавецтваў на выставе былі. Але мікрафонам ім карыстацца забаранялася, даваць гучныя абвесткі пра сябе — таксама. Стэнды былі, бо арганізатарам патрэбныя грошы. Адзін стэнд каштаваў 500 еўра. І ў той жа час было зроблена ўсё, «каб не высоўваліся».

### Чырвоная стужка

Такой двухсэнсоўнай па сваім духу стала выстава, чырвоную стужку на адкрыцці якой перарэзалі намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Радзькоў, намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч, старшыня лукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец і — гэта стала ўжо традыцыяй — старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Было сказана, што выстава «дастойна завяршае Год кнігі». На выставе былі прадстаўлены 25 краін.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Злева направа: Мікалай Чаргінец, Лідзія Ярмошына, Аляксандр Радзькоў, Лілія Ананіч.

Праўда, вялікі кавалак прасторы займалі чыста дэкаратыўныя стэнды краін СНД, Венесуэлы, Кубы, Ірана, Кітая. Яны мала каго цікавілі — хіба што дыяспары. Кнігі там пераважна выпадковыя, на некаторых іх было зусім мала, і на нацыянальных мовах гэтых далёкіх краін. Таксама і не ўсе стэнды краін Захаду былі прадстаўнічымі. Пра славацкі мы ўжо згадвалі. Некаторыя іншыя краіны выкарыстоўваюць выставу для падтрымкі вывучэння сваіх моваў у нашых школах, іншыя — для знаёмства беларусаў са сваёй культурай.

Звярнула ўвагу прэзентацыя кнігі цяперашняга пасла Францыі ў Беларусі Мішэля Рэнэры «Цудатворныя абразы Беларусі». Якасна аддрукаванае выданне на французскай мове суправаджаецца прадмовамі мітрапаліта ў Філарэта і Тадэвуша Кандрусевіча. Прадавалася яно за 120 тысяч рублёў. Напісанае яно з вялікай сімпатыяй да нашай краіны, але ўсе геаграфічныя назвы на ім былі перакладзены з рускай мовы, а не беларускай... Прыкрасць.

### Праханаў

Ганаровым госцем выставы сёлета была Расія (летась — Нямеччына). У знак гэтага былі прадстаўлены не толькі не камерцыйныя выдавецтвы. Найбольшую ўвагу прыцягнуў выступ Аляксандра Праханава, вялікага аматара цяперашняй беларускай улады, які ў свой час «закукарэкаў» у прамым сэнсе слова беларускага драматурга і апазіцыянера Мікалая Халезіна ў эфіры НТВ.

Выступ Праханава сабраў болей за сто слухачоў. Аднак гэта былі пераважна пенсіянеры. Праханаў гаварыў, што беларусы і руськія — гэта «адзін народ», што Сталін «паставіў на ногі рускую нацыю», а «нелюдзі ў 91-м годзе імкнуліся яе разбурыць», што Аляксандр Лукашэнка — «эталон палітыка». Але прагучалі ў Праханава і новыя ноткі. На пытанне, чаго не хапае сённяшняй Беларусі, ён адказаў: «Беларусі не хапае ўваходжання ў агромністую еўрапейскую звышдзяржаўнасць. Я думаю, як толькі гэта адбудзецца, уся чаша беларускай культуры, беларускага космасу напоўніцца да краёў. Што гэтаму перашкаджае? Марудлівасць гістарычнага часу».

«Еўрапейская звышдзяржаўнасць» — гэта Еўрасаюз. Выглядае, што і Праханаў звязвае беларускія працавітасць і парадак з еўрапейскімі каранямі нашага народа. Раней ад яго такіх заяваў не гучала.

Аднак Праханаў не топавы расійскі пісьменнік, не той, чые кнігі найбольш чытаюцца і абмяркоўваюцца. На сёння ён больш публіцыст, прапагандыст. Ніхто з самых папулярных расійскіх пісьменнікаў узроўню Акуніна, Уліцкай не прыехаў. Чаму?

> **Праханаў: Беларусі не хапае ўваходжання ў агромністую еўрапейскую звышдзяржаўнасць. Я думаю, як толькі гэта адбудзецца, уся чаша беларускай культуры, беларускага космасу напоўніцца да краёў**



### «Нявыгадна было прыязджаць»

А чаму цэнтральным экспанентам быў Іран? Каму ў Беларусі тут і цяпер трэба іранскія кнігі? Як іранская літаратура, іранская думка могуць умацаваць нашу нацыянальную культуру, нашу дзяржаўнасць тут і цяпер, што яны могуць прыўнесці ў нашу літаратуру?

Іранскі стэнд, зашклёны, нібы займаў кругавую абарону ў цэнтры. Багаццем літаратуры ён пахваліцца не мог. Затое са стэнда на беларусаў глядзелі два вялікія аяталы — Хамейні і Хаменеі — і копія «цыліндра Кіра Вялікага» — клінапіснага тэксту, у якім персідскі цар V ст. да н.э. пералічваў свае подзвігі і дэклараваў заваяваным народам адмену рабства і свабоду веравызнання. Якім бокам яны да сённяшніх праблем нашага народа? Ды ніякім. Выбар дыктаваўся палітычнымі, а не культурнымі меркаваннямі.

Праблема Мінскіх кніжных кірмашоў — у іх дэкаратыўнасці. «Нам нявыгадна было прыязджаць, — прызналася «Нашай Ніве» супрацоўніца расійскага стэнда. — Людзі нічога не купляюць».

Сённяшняя канцэпцыя выставы — са стэндамі краін СНД і геапалітычных сяброў — арыентаваная не на задавальненне камерцыйных патрэб выдаўцоў, не на энцыклапедычна зацікаўленні чытачоў ці падтрымку нацыянальнага аўтара, а на «геапалітычнае самасцвярджэнне краіны». На нашу думку, гэта разнавіднасць пацёмкінскіх вёсак і неадэкватны спосаб выдаткі дзяржаўных рэсурсаў.

### Сумныя вочы Міколы Чарняўскага

Тыповай сітуацыяй было: у праходзе іранец нешта іграе на тары, аднаму яму зразумелае, а праз пяць метраў насупраць супрацоўнікі «Беларускай энцыклапедыі» ці «Мастацкай літаратуры» спрабуюць перакрычаць гэтыя ўсходнія спевы, прэзентуючы свае выданні.

А як гэта ўспрымалі наведнікі, для якіх і арганізоўваюцца такія кірмашы? Вось што напісала ў Фэйсбуку стваральніца сайта «Нашы дзеткі» Хрысціна Вітушка. «На стэндзе аднаго дзяржаўнага выдавецтва быў дзіцячы пісьменнік Мікола Чарняўскі. Так мне шкада яго стала! Стары чалавек, добры такі дзядуля, напісаў і выдаў мора кніг. Яго мусілі б у твар пазнаваць, дрыжачым голасам звяртацца і дзяцей весці сфатаграфавацца. Як мінімум — хацелася б бачыць яго ў больш зручным крэсле. І каб ён усміхаўся. Але вочы ў Міколы Чарняўскага сёння былі сумныя-сумныя...»

**Мікола Бугай, Юрась Ускоў**

# Першы раман? Чаму першы?

Некалькі яскравых прэзентацый на XX кніжным кірмашы зладзіла выдавецтва «Рэгістр». Яно выдала, напрыклад, кнігу прозы Якуба Брайцава (1861—1931), рускамоўнага гомельскага пісьменніка. Яго твор «Сярод балотаў і лясоў», напісаны ў 1916-м, назвалі «першым беларускім раманам».

Брайцава ў свой час хвалілі акадэмік Карскі і Леў Талстой, але творчае жыццё не склалася. Ён дажываў на Гомельшчыне, працуючы «адвакатам для бедных». Герой яго рамана — беларускі Робін Гуд Аляксандр Савіцкі. Гэта рэальная асоба, бунтаўнік-адзіночка, які ў пачатку стагоддзя хаваўся ў магілёўскіх лясах, рабаваў маёнткі, раздаючы здабытае сялянам. Ён загінуў у 22-гадовым веку ў Красным на Гомельшчыне. Раман, хоць і па-руску, але «вельмі беларускі па духу», — адзначыла дырэктарка Архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, укладальніца кнігі.

Твор Брайцава каштаваў болей за 90 тысяч рублёў, таму яго мала куплялі, у адрозненне ад жаночага рамана «Пацалунак бусла» моднай аўтаркі Тамары Лісіцкай. Дзеля прэзентацыі твора, што прысвечаны тэме мацярынскага шчасця, стэнд «Рэгістра» аформілі пад радзільню. Аўтарка расказвала, як здорава мець дзяцей і якіх розных людзей можна сустрэць у радзільні. Творы Лісіцкай спрэс складаюцца з дыялогаў і найлепш успрымаюцца ў фармаце аўдыёкнігі.

Што да кнігі Брайцава, то можна толькі пахваліць выдавецтва за пераадкрыццё падзабытага аўтара. Вось толькі ці варта называць твор Брайцава «першым беларускім раманам»?

«Калі казаць пра творы, напісаныя не па-беларуску, дык тады першымі раманамі трэба лічыць «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай (да 1761), «Успаміны Сапліцы» Жавускага (1830), «Пан Падстоліч» Масальскага (1831—1833), «Успаміны квестара» Ігната Ходзькі (1850) ці «Над Нёманам» Ажэшкі (1887)», — адзначае перакладчык Лявон Баршчэўскі.

З беларускамоўных раманаў, кажа гісторык Анатоль Сідарэвіч, на першынство прэтэндуюць некалькі: «Золата» Ядвігіна Ш. — твор самы ранні па часе, але незавершаны. Першым завершаным у савецкім літаратуразнаўстве лічылі «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага. Але цалкам раман быў апублікаваны толькі ў 1932. Да публікацыі поўнага тэксту як аўтар раманаў паспеў выступіць Кузьма Чорны. Працяглы час першым яго раманам лічылі «Зямлю» (1928), бо да 1973 быў забаронены раман «Сястра», апублікаваны ў 1927—1928 у часопісе «Узвышша». Цяпер пальму першынства ў Чорнага і Гартнага можа перахапіць Максім Гарэцкі, бо яго знакамітыя «Дзве душы» першым беларускім раманам назваў у рэцэнзіі на першавыданне Антон Луцкевіч. Праўда, у рэцэнзіі Луцкевіча твор названы повесцю, але слова «повесць» у яго ёсць калькай польскага powieść, што перакладаецца як «раман».

**ЮУ**

# Перамагчы

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

«У з’яўленні палтэргейсту могуць быць вінаваты язычніцкія пахаванні» — артыкул раёнкі пад такою назваю трапіў мне на вочы ціхаю летняй ранічкай, каб змяніць жыццё назаўжды.

Тады я ні пра што такое і блізка не магла здагадацца. Проста позірк зачапіўся за чарнічны россып літараў і ўжо не здолеў адпусціць той газетны радок. «У з’яўленні палтэргейсту вінаваты язычніцкія пахаванні — да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі абласной газеты «Дняпроўскія хвалі». Нагадаем, у ноч на дзясятае ліпеня ў доме па завулку Кастрычніцкім рабіліся дзіўныя рэчы: са століі то лілася вада, то сыпаўся пясок, самастойна перамяшчалася мэбля, загараліся фіранкі. Як паведаміла дырэктар краязнаўчага музея Анціпенка С., некалькі год таму непадалёк ад завулка, на беразе ракі Вільчанкі былі знойдзены старажытныя пахаванні II—III стст. н. э. , што ўтваралі сабою кола, у цэнтры якога, магчыма, знаходзіўся ідал і праводзіліся рытуальныя ахвярапрынашэнні», — чытала я, і абурэнне скаланала мяне. Канечне, нават па гэткім пытанні ўласных думак няма, абавязкова з вышэйстаячай інстанцыяй параіцца трэба! Усё яны ў вобласці лепей за нас ведаюць — і хто вінаваты, і дзе ідал у II ст. нашай эры стаяў. Які б бязмен з вобласці ці сталіцы ні прыехаў — ён тутака і найвышэйшы суд, і першы разумнік, і ледзь не намеснік Бога на зямлі.

«Не выключана, што палтэргейст звязаны са старажытнымі могілкамі. Ніякіх рацыянальных тлумачэнняў няма», — запэўнівала раёнка.

«Ёсць! Ёсць! Ёсць!» — затахкала раптам у скронях. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна — нечаканае прызнанне ўсплыло словамі калектыўнай споведзі ў касцёле. А ў памяці паўстаў той спякотны травеньскі дзень, за які да сёння сорамна.

Высокае блакітнае, яснае аж да рэзі ў вачах неба. Сонца паліць, асфальт, як патэльня. Гарадскі парк адпачынку. Рэзкі гарлавы вокліч, паўсотні ног, нібы адбіваючы нейкі вар’яцкі рытм, крочаць па зачараваным коле. Грукочуць, грукочуць нешта забытае, нетутэйшае барабаны. Змярцвелая сцішанасць. Напаказ, буйным квеценем, быццам у апошні раз, красуе старая яблыня. Пісягі чужое крыві на дзіцячых шыях. Вялізная шыльда з надпісам. «Дзень піянерскага сяброўства. Агляд сцягавых груп». Дзяўчынка гадоў дзесяці — ёй бы лялькам косы заплятаць — страявым крокам з каменным выразам твару шыбуе да стала ў цэнтры. Смірна! Рука да пілоткі. Рапарт. Вольна!

**Абрад нетутэйшай ініцыяцыі ў Беларусі. І я, саўдзельніца чужынскага дзікунства**

Ля стала стаяць бы старажытныя ёлупні чальцы камісіі. Кіраўнік усіх піянераў раёна Ніна Раманаўна, мажная цётка з чырвоным тварам, мужна перамагаючы цяжкасці міжзапойнага перыяду, паблажліва ўсміхаецца: «Малайчына, і я з гэтага пачынала. Да сканчэння школы яшчэ лепш маршыраваць навучышся!» Старшыня ветэранскай арганізацыі, бадзёры дзядок гадоў сямідзесяці (цікава, у якой вайне ўдзельнічаў), паціскае дзяўчынцы руку і ўручае дыплом пераможцы: «Расце змена!»

А я, педагог-арганізатар прыгараднай школы, хаваюся ля яблыні. Мае вусны шапочуць як мантру: «Тая ж выхаваўчая работа, тая ж выхаваўчая работа». Мае глузды ўпершыню адмаўляюцца гэта слухаць і ніяк не могуць дапяць, дзе ж мае вочы ўжо бачылі ўсё гэта. Ага, спапяляючая гарачыня. Ахвярная кроў на руках і шыях хударлявых падлеткаў. Іх ногі зладжана рухаюцца па коле. Гэткія ж гарлавыя воклічы са змярцвелым маўчаннем мяжуюцца. Вялізныя тамтамы ва ўсю моц б’юць. Нават дрэва збоку ёсць. Не яблынька ў квецені, а нешта на акацыю падобнае ці на баабаб... Тэлеперадача «Клуб кінападарожнікаў» прысвечаная традыцыям дзікіх афрыканскіх плямёнаў.

Абрад нетутэйшай ініцыяцыі ў Беларусі. І я, саўдзельніца чужынскага дзікунства, у белую блузачку ўстроілася. Хоць ільвіная грыва або футра якой гіены былі б больш дарэчы.

Адразу прыгадалася піянерскае дзяцінства сярэдзіны васьмідзясятых. Хлусня і страх — тая ж выхаваўчая работа. Нейкі ідыёцкі парад у трэцім класе. Я крочу ў форме, якая нагадвае марацкую, на галаве — дзіўны ўбор накшталт бесказыркі. Ён вось-вось зваліцца долу, я ж баюся гэтага больш за ўсё на свеце: тады нам здымуць нейкія балы і мяне ўзненавідзяць праз тую клятую шапку, як узненавідзелі дзяўчынку з 4 «Б», што плача ля сценкі... Усё-такі добра, што тая піянерыя ляснулася! Ужо праз якія два-тры гады пераканаць мяне збіраць макулатуру, то бок бясплатна валтузіцца з бруднай паперай, або насіць піянерскі гальштук не здатныя былі ані ўхвала, ані пагрозы.

І вось на табе — мінула дзесяць-дванаццаць год і я сама рыхтую вучняў да ўдзелу ў дзікунстве раённага маштабу! Чаму абрала такую работу? Ды гэта работа абрала мяне!

Хаця я і не была актывісткаю ў школьныя гады, але вучылася амаль на выдатна. Вось і паслалі мяне ад раёна па мэтавым накіраванні ў Інстытут культуры. Адвучылася. Вярнулася. А тут за пяць год усё перайначылася. У ДК людзей хапае, гурткоў больш як гурткоўцаў, у аддзеле культуры спрэс працоўныя дынастыі... Тады ў райвыканкаме прапанавалі ў школу, педагогам-арганізатарам: маўляў, будзеш дыскатэкі ды ранішнікі ладзіць. Я пагадзілася — куды дзявацца. А пра піянераў ужо на месцы дазналася.

«Тая ж выхаваўчая работа», — запэўніла завуч, пабачыўшы мой спалоханы позірк. Я ж верыла, што ўся тая лажа даўно ў мінулым... Аж не! На сценах піянерскага пакоя — тыя ж міфалагічныя істоты, запомніць якіх праз адсутнасць індывідуальных рысаў у іх абліччах я так і не здолела. І чаму на розных партрэтах Паўлік Марозаў ды Марат Казей па-рознаму выглядаюць? Мо таму, што насамрэч такіх людзей не было ніколі?

Пачала працаваць. Спачатку нават падавалася, што праца карысная. Ладзіла бясконцыя Дні: ведаў, касманаўтыкі, непалення, барацьбы са СНІДам, канстытуцыі, вываду войскаў з Афганістана, здаровага ладу жыцця, савецкай арміі, дарожнага руху, маці, 8 сакавіка, святога Валянціна і халера ведае чаго яшчэ. Павязвала разумнейшым вучням гальштукі і везла на раённыя конкурсы ды канцэрты. І, ведаеце, неяк удавалася ў плынь трапіць, ніводнага разу без прызавога месца не вярталіся.



Аднаго разу загадалі выпусціць насценгазету на ваенную тэматыку. «І калі ўжо тая вайна скончыцца», — стагналі настаўнікі. Я не стала маляваць сонечнага зайчыка і ляпіць яму на лоб фота мясцовага ветэрана, не перапісвала самастойна перадавіцу з раёнкі як арганізатар суседняе школы, а пайшла іншым шляхам. Памяняла ў той перадавіцы месцамі сказы, а перапісаць прымусіла вучаніцу — не дужа кемлівую, але старанную дзяўчынку, каб кідаўся ў вочы дзіцячы почырк. Апроч таго, унізе пазначыла выходныя дадзеныя органа друку. У выніку стала пераможцай, атрымаўшы саламяную ляльку ў падарунак!

Піянерскімі справамі ў раёне кіравала дваццацівасьмігадовая Ірачка. Караценькая спаднічка ў гармонік, заўсёдны піянерскі значак на камізэльцы, як гулліва сцвярджала яна сама — цудоўная нагода для знаёмства. Гэтая супрацоўніца аддзела адукацыі хутчэй нагадвала пераспелую васьмікласніцу і ніколі не забывалася нават на адказных мерапрыемствах у гонар Вялікай Айчыннай страляць вочкамі ў бок баяніста Лёнечкі. Але крыві асабліва не псавала. Крыху разлавала толькі аднойчы, калі ў 25-градусны мароз запрасіла настаўнікаў з далёкіх вёсак на семінар, каб павучыць іх рабіць паштовачкі ў форме сэрца да Дня святога Валянціна.

Пасля Ірачка зацугляла Лёньку і сышла ў дэкрэт. Вось тут і пачалося самае цікавае! На Іраччыну пасаду прызначылі метадыста Ніну Раманаўну, адзіную жанчыну-ваенрука ў раёне. Здольнага арганізатара, фанатку піянерскай справы, што, апроч мужчынскае прафесіі, мела нязломны характар, суровую знешнасць, гучны нізкі голас і незвычнае для старой дзеўкі захапленне — чарку, часам некалькі дзён запар.

З яе прыходам вайна нібы разгарэлася з новай сілай. Сваю кар’еру ў далёкія васьмідзясятыя Ніна Раманаўна пачала піянерважатай вясковай школы, а вайсковую падрыхтоўку ўзялася выкладаць потым, скончыўшы тры курсы нечага завочнага і празмерна захапіўшыся маршыроўкай ды ганаровымі караруламі.

Яна пачала дзейнасць на новай пасадзе з сустрэчы важацкіх

# палтэргейст

пакаленняў. Звалакла аднекуль сяброў баявога юнацтва, з якімі разам у барабан лупіла, каб тыя павучылі нас працаваць. Сталы ламаліся ад закускі і выпіўкі, фуршэт зладзілі ў Доме дзіцячай творчасці. Забаўляльнай часткі мог нават сталічны цырк пазайздросціць! Падпітыя дзядзькі і цёткі шыхтамі хадзілі ў пілотках пад піянерскім сцягам і спрабавалі спяваць дзіцячыя песні часоў пачатку перабудовы.

А пасля былі бясконцыя навучанні сцяганосцаў, барабаншчыкаў, агляды песні і строю. Складалася ўражанне, што перад Днём Перамогі ўладу ў асобна ўзятым раёне захапіла ваенная хунта.

«Дзецям маршыраваць карысна, ля кожнага помніка героям вайны неабходна паставіць піянерскую варту». Чарговая дырэктыва Ніны Раманаўны выклікала нечуваную радасць у вясковых школьнікаў. Юныя вартавыя вызваляліся ад заняткаў і маглі гуляць у хованкі паміж магільных камянёў цёплымі вясновымі дзянькамі.

Але росквіт мілітарызму прыпаў на той дзень піянерскага сяброўства ў гарадскім парку.

Я не магла ачомацца яшчэ доўга. Самым брыдкім было ўсведамленне таго, што я і такія, як я, дапамаглі яму адбыцца. Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся. Ласыя на пахвальбу старэйшых па пасадзе, па званні, па веку — неістотна. Не разумелі? Не бачылі? Шчыра верылі ў сваю правільнасць? Былі і такія. Большасць жа проста сапла ў дзве дзіркі, прыняўшы правілы гульні: жыццё ў стане перманентнае ганьбы ўзамен на больш-менш забяспечаную старасць. Прыкінуліся ягадкамі-дурнічкамі! Тая ж выхаваўчая работа... Усё перамелецца — неяк будзе...

Не перамалолася! Чужынскія нячысцікі, гукамі тамтамаў пакліканыя, спачатку ў нашыя вантробы ўсяліліся, а потым пачалі і звонку бушаваць. Роўна праз сорак дзён пасля таго сатанінскага параду ў горадзе аб'явіўся палтэргейст. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна.

Скачуць, скачуць афрыканскія чэрці па нашай зямельцы, а мо гэта духі старога капішча з імі сілаю мераюцца? Мусіць абрыдла стагоддзямі глядзець, як кожнае заезджае быдла на іхняй бацькаўшчыне мала што прыжываецца, дык яшчэ і парадкі свае пачынае заводзіць.

З палтэргейстам трэба змагацца — але як? Наўрад ці на нетутэйшую субстанцыю падзейнічае царкоўны ладан. Дыхлафос таксама тут не памочнік. Нічога ж іншага я прыдумаць не змагла і таму звярнулася па параду да аднаго з самых дасведчаных людзей нашага горада ў справах цудадзейных рэчываў і анамальных з'яў.

Юра Хвост захапляўся ўсім, ад сатанізму да магіі, паліў усякую дрэнь, марыў з'ехаць у Тыбет, забіваў на вучобу і працу. Карацей, нефармал круцей няма куды — іракез на галаве, нагавіцы ў дзірках. Юрка адразу прапанаваў рашэнне — мясцовыя каноплі з гарода бабы Адэлі. Каноплі, гонкія як сосны, раслі ля ганка і пад вокнамі ў нашай сваячкі, якая жыла непадалёк ад райцэнтра ў спусцелай вёсцы. Лічылася, што яны добра адганяюць мух, каб не ляцелі ў сенцы. Я зрэзала адно каліва, наведаўшыся ў госці.

У азначаны дзень, напхаўшы сушаных канопляў у нейкія папяросы, Юркам прынесеныя, мы абкурылі ўвесь гарадскі парк, абышоўшы яго тройчы па гадзіннікавай стрэлцы і на ўсялякі выпадак супраць яе, са словамі: «Прэч, духі, прэч, тут людзі жывуць». Словы я чула ў нейкім фільме пра цёплыя краіны, з імі на вуснах вузкавокая, маршчатая як печаны яблык старая абыходзіла мазанкі.

Можа, мы і выглядалі вар'ятамі, але не больш чым тады, на сатанінскім парадзе. Ну, а каб канчаткова пазбавіцца ад палтэргейсту не толькі звонку, а і ў душы, я падала заяву на звальненне. У РАА , канечне, упіраліся: «Вы падумайце, Ніну Раманаўну ў вобласць збіраюцца пераводзіць, магчыма, на яе месца станеце. Маладая, перспектыўная...»

Ад перспектыў галава не закруцілася. Я была непахіснай. Прызвання да хлусні і выхаваўчай работы болей не адчувала. Палтэргейст — апошняя кропля. Вось і ўсё. Цяперака няхай выраблююць што хочуць. Хоць сабе ў тамтамы ў парку лупяць, хоць пудзіла Паўліка Марозава на цэнтральнай плошчы паляць, маёй віны ў гэтым ужо не будзе.

Самае цікавае, што неадэкватныя захады супраць анамальнае з'явы далі плён. Вось ужо дзесяць, дванаццаць, нават пятнаццаць гадоў пра палтэргейст ніхто не чуў. Можа на бацькаўшчыну паляцеў, можа ў Юрыка Хваста ўсяліўся... Але цалкам верагодна, што ён калі-небудзь вернецца. Бо за гэтыя дзесяць-дванаццаць — не варта лічыць колькі — гадоў жыццё застыла. Нічога не змянілася за выключэннем дробных дэталяў у біяграфіях жыхароў нашага райцэнтра. Акалічнасцяў, амаль не заўважных староннім воку.

Ніна Раманаўна з'ехала ў вобласць, і надалей яе сляды губляюцца. Пагаворвалі, што

**Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся**

спілася дашчэнту, цягаючыся па піянерскіх святах ды камсамольскіх злётах. Метадыстка Ірачка пасля дэкрэту выйшла на працу, але Ірынаю так і не зрабілася, адразу пачала ператварацца ў Васільеўну. Яна ладна раз'елася і недзе збаёдала піянерскі значок. Вочкамі Васільеўна больш не страляе, наадварот, глядзіць пільна, каб Лёнечка не падгульнуў і не напіўся, таму лётае па доме творчасці як шалёная. Пагаворваюць, можа яшчэ ў другі дэкрэтны збярэцца.

Каноплі на падворку бабы Адэлі звяліся: старая сама іх зрэзала, бо наркоты ўвесь гарод стапталі. Як што якое — ратавацца ад палтэргейсту няма чым.

І, канечне, даўно сышоў у нябыт іракез Юрыка Хваста. Ужо іншыя прыбіраюцца ў майкі са шкілетамі. А Юрык павыдурваўся яшчэ гадоў колькі і на радасць бацькам аднавіўся ў педінстытуце. Атрымаўшы дыплом, у міліцыю мецціў. (Ну чаму самыя крутыя нефармалы ў юнацтве пасля ў мянты ці вайскоўцы ідуць?) Але для органаў біяграфіяй не выйшаў : ці то ягоны дзед з фронту ўцёк, ці то маці ў краме пратаргавалася. Цяпер Юрка, перапрашаю Юрый Ігнатавіч, працуе ў ПТВ, выбачаюся, прафесійным ліцэі тэкстыльшчыкаў. Спачатку вёў гуртон выразнага чытання, пасля прыбраў да рук усю выхаваўчую работу. Ладзіць конкурсы плакатаў «СТОП СНІД», шукае нелегальныя кіпяцільнікі ў пакоях інтэрната. Пыхкае як паравоз, выцірае насоўкаю залысіну на лбе, скардзіцца на паводзіны навучэнак. Гэта ж трэба! Замест таго каб слухаць у актавай зале яго лекцыю аб інавацыях у галіне маладзёжнай палітыкі, забаўляюць камандзіровачных з будтрэста!

Я па страчаным не тужу, яно было толькі мрояю. Толькі людзі з мінулага, найчасцей тыя, што вечна чакаюць сваёй долі на чужым карку, наманікюраныя лапкі склаўшы, дасталі спачуваннямі. Маўляў, разумніца, выдатніца, адукацыя вышэйшая, а рыбай у ларку гандлюеш. А па мне — праца як праца, усё як ва ўсіх. Сям'я шчаслівая. Праўда, шчаслівы ў ёй кожны паасобку. Сын — калі да камп'ютара дарвецца, муж — не ведаю, дзе знайшоў сваё шчасце, але каля крамы не відаць даўно. Я ж наймацней адчуваю задавальненне жыццём увечары, калі пасляпрацоўная цемра мікрараёна заглынае мяне ў сваю пашчу і я, дабраўшыся дадому, ахінаюся коўдраю і падаю на канапу.

Нягледзячы на сумесь шкадавання і дакору ў бацькоўскіх вачах, я не зайздрошчу перспектыўнай моладзі. Часам лаўрэаты, стыпендыяты, дыпламанты і іншыя маладыя ўзыходзячыя зоркі, якія так і не ўзыдуць, ні аб чым не здагадваючыся, усміхаюцца ў кароткіх рэпартажах праграмы «Навіны». Нават тады я не зайздрошчу. Бо ў іх усё яшчэ наперадзе. А я — сярод селядцовага смуроду, у адзежы з тлустымі плямамі — бруднымі справамі не займаюся.



**Тацццяна Барысік**

пісьменніца. Жыве ў Магілёве. Працуе настаўніцай.

In memoriam

# Віктар Мартынаў

25 студзеня 2013 пайшоў з жыцця адзін з самых арыгінальных беларускіх лінгвістаў другой паловы XX і пачатку XXI стагоддзя Віктар Мартынаў. Здарылася гэта ў 89-ы дзень народзінаў даследчыка.

Віктар Мартынаў нарадзіўся ў Адэсе. Пехацінцам прайшоў франты Другой сусветнай. У Мінск ён трапіў у 1960, пасля навучання і выкладання ў Адэскім і Львоўскім універсітэтах. У беларускай Акадэміі навук Мартынаў змяніў свае цікавасці: быў літаратуразнаўцам, даследаваў польскую паэзію, а тут заняўся лінгвістыкай — славістыкай і індаеўрапеістыкай.



Адна з самых важных высноваў Мартынава «беларуская перыяду» — гэта тое, што праславянская мова сфармавалася на базе заходнебалцкага моўнага арэала з насланеннем на яго італійскага элемента, блізкага да латыні. Канцэпцыя, якая выводзіць праславянаў з заходнебалцкага маргінэзу, была крытычна сустрэтая часткай навуковай грамадскасці. Але спецыфічныя адносіны балтыйскіх і славянскіх моваў, і ў першую чаргу беларускай мовы, заўсёды заставаліся ў коле інтарэсаў Мартынава, у тым ліку пры рабоце над «Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы». Гэты слоўнік — унікальны праект, які пачаў ажыццяўляцца пад кіраўніцтвам Мартынава. Першы том выйшаў у 1978, сёння мы маем 13-ы том, і выданне працягваецца. Яшчэ ў праспекце да першага тома Віктар Мартынаў катэгарычна не прымаў афіцыйна прапагандаваны тэзіс пра адзіную калыску ўсіх усходнеславянскіх моваў і народаў. Таксама Мартынаў браў удзел у т.зв. Палескіх экспедыцыях. Выходзячы са сваёй канцэпцыі прарадзімы славян, В. Мартынаў лічыў Палессе, дакладней, Заходняе Палессе, тэрыторыяй першай славянскай міграцыі на ўсход.

У 1960-я ў даследчыка з'явілася яшчэ адна сфера зацікаўленняў — лінгвістычныя аспекты штучнага інтэлекту. Любая мова чалавецтва настолькі разнастайная і багатая, што амаль кожнае выказванне хавае ў сабе няпэўнасць, неканкрэтнасць. А ў кантактах з машынай гэта стварае праблемы паразумення. Віктар Мартынаў і спрабаваў знясць гэтую няпэўнасць, вылучыўшы ў словах «кванты» семантычнай (сэнсавай) інфармацыі ды правілы іх спалучэння. Праз такую фармалізацыю мовы Мартынавым быў створаны УСК — Універсальны Семантычны Код. У 1970-я гэта было адно з самых выразных дасягненняў беларускіх лінгвістыкі і інфарматыкі.

Да сваіх апошніх дзён Віктар Мартынаў не пакідаў заняткаў навукай. Як гуманіст ён спрыяў паразуменню паміж людзьмі і шмат чаго зрабіў для пашырэння ведаў пра беларускую навуку і Беларусь у свеце.

**Алег Дзярновіч**

# Вольга Гронская

## Пяць

А калісьці надыдзе дзень,
і ён табе скажа: «Ма,
гэта не шапка, а смех адзін!
Хочаш — насі сама».
Кіне яе на канапу,
пойдзе ў свой пакой і
ўключыць там Muse, ці Coldplay,
ці нешта яшчэ такое
(што будуць слухаць
у дваццаць трэцім
гэтыя дзеці?).

А неяк убачыць дзіцячае фота
на сайце і скажа: «Ну вы далі!
У мяне там зуба няма,
і ўвогуле — выдалі.
Павесь лепш туды Далі».
Кіне ў заплечнік рыдар
(плэер, айфон, тамтам)
і — «Не чакайце, мам!»
Махне рукой, усміхнецца
ды апынецца там,
дзе побач з дзяўчынкай-скерца
стане сэрца шалёна біцца.
Як і тваё, дарэчы:
ты з гэтага часу штовечар
пачнеш класціся позна,
правяраць тэлефон…
Звоніць. Гэта не ён?

Цяпер ты таксама не спіш.
Пакуль —
таму, што кашляе, прачынаецца,
просіць тваю руку
(ведае: ад любога цмока
і ведзьмака
абароніць гэта рука).
І ты закідаеш дэдлайны
і важныя прапановы —
на гарышча, у куфар, дзе цень.
Бо калісьці надыдзе дзень,
і ён сыдзе — дарослы — жыць.
А пакуль — верабейкам сонным —
папросіць піць,
і яму яшчэ толькі пяць.
Можна гладзіць па валасах,
трымаць за руку,
сцерагчы яго сон
і самой
не спаць.

**Вольга Гронская**

нарадзілася ў 1978 годзе на Мядзельшчыне. Скончыла рамана-германскае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ і аспірантуру пры ім, абараніла дысертацыю на тэму «Хранатоп прозы Інгеборг Бахман». Цяпер выкладае сусветную літаратуру. Перакладае з нямецкай і польскай моваў, пераклады друкаваліся ў часопісах «Крыніца» і «Фрагмэнты». Жыве ў Мінску.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» згуляе з татарамі і башкірамі

**15 і 17 лютага мінскае «Дынама»** правядзе апошнія гульні «гладкага» першынства КХЛ. У іх будзе вырашана, ці трапіць каманда ў плэй-оф Кубка Гагарына. 15 лютага «зубры» прымуць казанскі «Ак Барс» (пачатак а 19-й), а 17 лютага — уфінскі «Салават Юлаеў» (пачатак а 17-й).

## КАНЦЭРТЫ

### Разбітае сэрца пацана

**14 лютага а 19-й у клубе «Цэнтр» (Кастрычніцкая пл., 1)** — «Разбітае сэрца пацана» з вялікім сольным канцэртам.

### J-Морс

**14 лютага а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту «J-Морс».

### Віктар Зінчук

**17 лютага а 19-й у к/з «Мінск»** — прэзентацыя новага сольнага акустычнага альбома Віктара Зінчука, куды ўвайшлі творы Брамса, Шуберта, Шапэна і Грыбаедава, а таксама аўтарскія апрацоўкі папулярных тэм…

### Ірландская вечарына

**17 лютага а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — ірландская кейлі-вечарына. Бяруць удзел гурты Ejrut і Jolly Green.

### Верасень

**19 лютага а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — гурт «Верасень».

### The UNB

**21 лютага а 20й у «Гудвіне»** — канцэрт гурту The UNB.

### Князь Мышкін

**21 лютага а 19-й у «Доме Фішэра» (пр.Незалежнасці, 84 а)** — «Князь Мышкін».

### Ultra-Music Awards-2012

**22 лютага а 19-й у «Цэнтры» (Кастрычніцкая пл., 1)** — Ultra-Music Awards-2012. Бяруць удзел «Адыс Абэба», Akute, Irdorath, Паліна Рэспубліка, Plum Bum.

## ІМПРЭЗЫ

### Правакацыя пачуццяў

**14 лютага ў 18.30 у Нацыянальнай школе прыгажосці (Мельнікайтэ, 4)** — паказ калекцыі дызайнера Андрэя Варашкевіча «Правакацыя пачуццяў». Ручная работа і спалучэнне воўны з выкшталцонымі карункамі з Італіі і Францыі, стразы і аплікацыі — усё гэта дэманструе пачуццёвасць і правакуе эмоцыі…

## ВЫСТАВЫ

### Уладзімір Цэслер «Практыка рынкавага рэалізму»

**Да 2 сакавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Практыка рынкавага рэалізму» Уладзіміра Цэслера. Выстаўка прадстаўляе жывапіс, скульптуру, арт-аб'екты У.Цэслера і іншыя праявы ягонай крэатыўнасці і схільнасці да парадоксаў мыслення.

### Мае праведнікі

**Да 3 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Анатоля Клешчука «Мае праведнікі», прысвечаная беларусам, якія ў гады Другой сусветнай вайны ратавалі габрэяў ад фашыстаў.

### Малюнкі Гофмана



**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (Акадэмічная, 5)** да 24 лютага працуе выстава «Малюнкі Гофмана». Мінскі глядач упершыню пазнаёміцца з графічнымі работамі па матывах казак класіка нямецкай літаратуры.

### «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне

**Да 25 лютага ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне». На экспазіцыі прадстаўлены афішы, праграмы, эскізы, макеты дэкарацый і касцюмы да спектакля, а таксама асабістыя рэчы Паўліны Мядзёлкі, першай выканаўцы ролі Паўлінкі.

## ТЭАТРЫ

### 14 лютага

**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 15 лютага

**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Серэнада. Балеро»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»

### 16 лютага

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 17 лютага

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 18 лютага

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Дастаеўскае пытанне»

### 19 лютага

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Тоска»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 20 лютага

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Гендэль Бах»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 21 лютага

**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 22 лютага

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — Translations







## КІНО

### «Гладыятары Рыма»

**Жанр:** камедыя, мультфільм
**Рэжысёр:** Іджыніа Страфі
**Акцёры:** Лаура К'яці, Джуліяна Хаф, Лука Арджэнтэра, Белен Радрыгес
**У пракаце да:** 20 лютага 2013
Італія, 2012

Страшнае вывяржэнне вулкана разбурае горад Пампеі, і маленькі Цім застаецца сіратой. Яго выратавальнік, генерал Кірон, адпраўляе Ціма ў школу гладыятараў, але юны гультай упарта не хоча станавіцца байцом. Пасталеўшы, Цім закахаўся ў прыгажуню Лючылу. Але каб заваяваць яе сэрца, трэба стаць сапраўдным героем.

Выдатная Дыяна, багіня палявання і майстар па гладыятарскіх баях, бярэцца за трэніроўкі Ціма перад першым боем. Але ці атрымаецца ў Ціма перамагчы самога сябе і стаць сапраўдным мужчынам?



# У якога аператара самы танны мабільны інтэрнэт?

Турэцкі Life:) **абышоў усіх канкурэнтаў**.

Год таму кожны пяты беларус, па падліках Міністэрства сувязі, карыстаўся мабільным інтэрнэтам. Леташні рост папулярнасці смартфонаў зрабіў гэтую лічбу яшчэ большай. Таму пытанне, да якога з аператараў мабільнай сувязі падключыцца, актуальнае для многіх беларусаў.

Інтэрнэт — адзін з нямногіх сэрвісаў, які з часоў дэвальвацыі падаражэў нязначна. Істотным быў хіба што толькі рост цэн у сувязі з уключэннем у тарыф 20%-ага падатку.

Самымі папулярнымі застаюцца «пакетныя» прапановы, калі абанент загадзя аплачвае патрэбную колькасць мегабайтаў. У якога з аператараў пакеты самыя танныя? Параўнанне прыведзена ў табліцы. Насупраць кожнага з пакетаў прыведзеная цана, якую давядзецца заплаціць кожнаму з аператараў. Напрыклад, вам патрэбна менавіта 750 мегабайтаў. У Velcom столькі трафіка каля 37 тысяч рублёў. У астатніх аператараў менавіта такі пакет не прадаецца, таму ўсё адно прыйдзецца купляць 1000 мегабайтаў, хоць гэта і крыху даражэй. Дарэчы, некаторыя аператары размяжоўваюць інтэрнэт «для тэлефона» (дадатковая паслуга да пэўнага тарыфнага плана), інтэрнэт «для камп'ютара» (асобная сім-картка, каб уставіць у мадэм).

Аднак у любым выпадку ў параўнанні з мінулымі гадамі, калі відавочнага лідара не было бачна, турэцкі аператар Life:) заціснуў канкурэнтаў. Velcom апярэджвае астатніх толькі на малых аб'ёмах трафіка.

Не забудзьце загадзя праверыць, ці будзе добра працаваць у вашым доме ці на вашай працы хуткасны інтэрнэт ад канкрэтнага мабільнага аператара. Белыя плямы ў кожнай з кампаній ёсць і ў глухіх вёсках на Палессі, і ў спальных раёнах Мінска.

**Ягор Марціновіч**

**«Безлімітны» інтэрнэт**

**Life:)**

1) Хуткасць — 128 Кб/с, месячны ліміт — 10 Гб. Пры яго дасягненні хуткасць — 64 Кб/с. Цана за месяц — **82 800**.

2) Хуткасць — 512 Кб/с, месячны ліміт — 30 Гб. Пры яго дасягненні хуткасць — 64 Кб/с. Цана за месяц — **118 800**.

3) Хуткасць — неабмежаваная, месячны ліміт — 30 Гб. Пры яго дасягненні хуткасць — 64 Кб/с. Цана за месяц — **190 800**.

**МТС**

1) Хуткасць — 2 Мб/с. Штодзённы ліміт — 1 Гб. Пры яго дасягненні хуткасць — 128 Кб/с да канца дня. Цана за месяц — **180 000**.

2) Хуткасць — 2 Мб/с. Штодзённы ліміт — 250 Мб. Пры яго дасягненні хуткасць — 128 Кб/с да канца дня. Цана за месяц — **96 000**.




| | 100* | 250 | 350 | 500 | 750 | 1000 | 1500 | 2000 | 2500 | 3000 | 4500 | 5000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **МТС** | 18000 | 33000 | 33000 | 33000 | 48000 | 48000 | 72000 | 72000 | 96000 | 96000 | 120000 | 120000 |
| **Velcom** | 17880 | **17880** | **22680** | 37080 | **37080** | 47880 | 47880 | 47880 | 47880 | 71880 | 71880 | |
| **Life:)** | **13200** | 19200 | 26400 | **26400** | 42000 | **42000** | **46800** | **46800** | **46800** | **46800** | **70800** | **70800** |

* — Колькасць мегабайтаў у пакеце.

**Кіно**

# «Адрынутыя»: перавыхаванне аднаго чыноўніка

У мінскіх кінатэатрах ідуць «Адрынутыя» — экранізацыя аднаго з самых **паспяховых мюзіклаў** у гісторыі.

Напісаны ў 1980-м паводле рамана Віктора Гюго, мюзікл быў пастаўлены ў 38 краінах. Запамінальныя кампазіцыі Клода-Мішэля Шонберга і Алена Бубліля зажылі самастойным жыццём: так, фінальную песню Do You Hear the People Sing ставілі кітайскія студэнты на плошчы Цяньаньмэнь.

Каб зрабіць больш кінематаграфічным мюзікл, рэжысёр Том Хупер загадаў акторам співаць па-сапраўднаму проста ў кадры. Гэта дадало вобразам эмоцыяў. Хоць і тэатральны патэнцыял напоўніцу выкарыстоўваецца — фантастычныя дэкарацыі, касцюмы, якія падкрэсліваюць характар (асабліва бліскучыя — у мужа і жонкі Тэнард'ё, якіх іграюць Саша Барон Коэн і Хелена Бонэм Картэр). Пэўнай тэатралізаванасцю кіно нагадвае «Анну Карэніну» і «Алісу ў краіне цудаў».

Як часта бывае, станоўчыя персанажы слабейшыя і прасцейшыя за адмоўныя. Жан Вальжан, сыграны Х'ю Джэкманам, няшчасная Фанціна, мілы Гаўрош — з іх дапамогай лёс паказвае інспектару Жаверу, як ён памыляўся ў сваім разуменні справядлівасці.

Гэты спецслужбіст, які выбудоўваў найскладанейшыя схемы, каб злавіць Вальжана, «ціхаром» і правакатарам хадзіў на барыкады, у фінале судзіць сябе самым жорсткім судом за мізэрную праяву чалавечнасці. Бо гэтая мізэрная праява зруйнавала ўсю яго сістэму жыццёвых прынцыпаў — Жавер не ведаў, як далей жыць. Расел Кроў выдатна пасуе для гэтай ролі.

Дарэчы, свой Жан Вальжан ёсць і ў беларускай літаратуры — доктар Чаховіч з паэмы «Слова пра чалавечнасць» Уладзіміра Караткевіча. Стары вучоны, знемагаючы, выносіць з турмы праз падземныя катакомбы — як Вальжан Марыуса праз парыжскую каналізацыю — маладога падпольшчыка. Інспектар Жавер і яго падручныя, адпаведна, пераўвасоблены ў фашыстаў. Караткевіч рэтрансляваў ідэю, што чалавечнасць магчымая ў найцяжэйшыя часы, але шляху да выкуплення для адмоўных персанажаў не пакінуў.



Перавыхаванне асобна ўзятага паліцэйскага адбываецца на фоне адной з французскіх «Плошчаў» XIX стагоддзя — ліпеньскай рэвалюцыі 1830-га, у выніку якой адзін манарх быў зменены на іншага. Маляўнічыя барыкады, сцягі, наіўнасць і адчай рэвалюцыянераў, да якіх не далучыўся народ...

На беларускіх землях французскія падзеі адазваліся паўстаннем 1830—1831-га, жорстка задушаным царызмам.

Яскравы мюзікл пра падзеі двухсотгадовай даўніны шмат у чым сугучны і з нашым днём, а кампазіцыі з яго вы, пабачыўшы кіно, яшчэ доўга будзеце пасля спяваць самі сабе.

**Сяргей Мікулевіч**

**Фотафакт**

## Электронны праязны ў сталічным грамадскім транспарце

Ужо ў наступным годзе ў Мінску з'явіцца электронны праязны — бескантактная пластыкавая картка.

Пры ўваходзе ў транспарт трэба будзе прыкласці картку да спецыяльнага апарата, які папярэдне заблакуе на рахунку максімальны кошт паездкі. На экране валідатара тым часам з'явіцца надпіс «Аплачана». Пры выхадзе з транспарту давядзецца зноў паднесці картку да апарата, каб вызначыць канчатковы кошт паездкі. Электронны праязны можна будзе набыць на любую колькасць паездак альбо на пэўную адлегласць.

Пры гэтым у продажы застануцца і звычайныя білеты. Вось толькі ўстаўляць іх давядзецца не ў звычайныя кампостары, а ў электронныя. Яны будуць друкаваць на білетах час пачатку паездкі.

**ЯМ**




**Сцісла**

**Бензін Н-80 знікне**

На запраўках «Беларуснафты» будзе прадавацца ўсё менш нізкаякаснага бензіну Н-80. Канчаткова гэты від паліва знікне з продажу сеткі ў другім квартале 2013 года. Праз запраўкі «Беларуснафты» прадаецца больш за 70% паліва ў краіне.

**Google пабудуе ўласны аэрапорт**

Амерыканская карпарацыя плануе пабудаваць аэрапорт у горадзе Сан-Хасэ. Ён патрэбны топ-менеджарам кампаніі, якія не ўпісваюцца ў графік звычайных рэйсаў.

**Пампеі рэстаўруюць за 105 мільёнаў еўра**

У Італіі пачаты праект па рэстаўрацыі Пампеяў, помніка ЮНЕСКА. Будуць выкарыстаныя перадавыя тэхналогіі для захавання руін, пашкоджаных у апошнія гады. Колькасць турыстаў у Пампеях ужо складае 2,3 мільёна чалавек штогод.

**ЯМ**



У Гомелі 9 лютага прайшоў конкурс прыгажосці і грацыі «Прыгажуня Палесся». Яго арганізаваў цэнтр моды і прыгажосці «Крыштальная німфа». Вераніка Чачына (на фота) з Гомеля перамагла ў дзвюх намінацыях: «Прыгажосць і грацыя» і «За імкненне да перамогі».

АКСАНА РУДОВІЧ



**Італьянскі фатограф Алясандра Вінчэнці апублікаваў у часопісе Esquire вялікі фотарэпартаж з падпольнага ліцэя імя Якуба Коласа.**



**Пару гадоў таму з ілба 103-гадовай жыхаркі Кітая Чжан Руафінг пачаў расці рог. Так як ні болю, ні свербу ён не выклікаў, то спачатку Руіфанг і зусім не звяртала на яго ўвагі. Цяпер жа рог дасягнуў шасці сантыметраў удоўжкі. Дактары адзначаюць, што гэта рог скураны — гэта такая дабраякасная пухліна.**



АНДРЭЙ МАКАЁНАК

**У мінскім Палацы спорту прайшла выстава катоў. Маленькая зала хакейнага збудавання сталіцы на два дні ператварылася ў палац дзіцячых усмешак і мілай кацінай ляноты.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Уяўляеш, я апошнім часам жыву ў рэжыме пастаяннай эканоміі!

— І на чым ты эканоміш?

— Ды літаральна на ўсім! На дамах, машынах, карцінах ...

* * *

Маладая, энергічная бландзінка з фінансавай адукацыяй шукае брутальнага мужчыну, якому лянота лічыць свае грошы.

* * *

З балота на коўзанку, з коўзанкі ў балота, праз рэкі і азёры — і вось я на працы... Адліга!

* * *

У вёсцы фельчар зашывае мужыку рассечанае брыво:

— Ну, як ты, Мікола, прымудрыўся з ровара так зваліцца? Рукі ў цябе на што?!

— Калі б я зваліўся на рукі, то Васька са Змітруком за дзве пабітыя пляшкі гарэлкі наогул бы мяне забілі...

* * *

Дзённік халасцяка. Выносіў смецце. Суседзі падумалі, што пераязджаю.

* * *

— Мой муж кінуў піць дзякуючы спорту.

— А якому віду спорту?

— Боксу.

— Ён стаў займацца боксам?

— Не ён, а я.

* * *

Прадавец «Еўрасеткі» прадаў д'яблу душу. І чахольчык.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Віцебск.** У мэбляваных пакоях (гасцініцы) арыштавалі невядомага маладога чалавека, каторы вышукваў прыгожых маладых дзяўчат, нагаварваючы іх на выезд у Амерыку. Як пасля ўдалося выкрыць паліцыі, ён адпраўляў дзяўчат у Амерыку ў дамы распусты.

**«НН». №7. 1912.**

**З «мерсэдэсаў» на «фальксвагены».** Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца нямецкія машыны. Самая рэдкая машына ў краіне — італьянская «Іначэнці». У Беларусі 2 машыны гэтай маркі: адна — у Магілёўскай вобласці, другая — у Брэсцкай.

**«НН». №6. 2002.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, аднолеўная ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8070. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 12.02.2013.
Замова №681.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614